незалежная газета

№ 9 (703) 2 сакавіка 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



## Самалёт Кадафі прылятаў у Мінск

Старонка 5



## Уклады ў рублях перастаюць быць выгаднымі

Старонка 4

## Перасядзем на «Лады» і не піснем?

Старонка 4

Тэндэнцыі

## За злачынствы — падвышэнне па службе

У Беларусі катуюць не толькі палітыкаў. У Віцебску следчыя сілай змушалі старшакласнікаў Логінава і Непаюка ўзяць на сябе чужое злачынства. Яны вытрывалі нялюдскія здзекі, нават пасадку ў псіхбальніцу. У выніку Вярхоўны Суд апраўдаў іх. Піша бацька аднаго са школьнікаў. **Старонка 10.**


### У НУМАРЫ

**Лукашэнку трохі абсвісталі**

Гэта здарылася на хакейным матчы 27 лютага на «Мінск-Арэне». **Старонка 12.**

**Павел, Алесь, Кацярына, Канстанцін і Вольга**

Суддзя Вольга Комар была выпускніцай Беларускага ліцэя. Піша яе выкладчык Анатоль Сідарэвіч. **Старонка 11.**

**Беларускія танкі захапілі ўвесь свет**

Беларуская камп'ютарная гульня трапіла ў Кнігу рэкордаў Гінэса: у яе гуляюць больш за 100 тысяч чалавек адначасова. **Старонка 15.**


«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Міхалевіч: Мяне катавалі ў турме КДБ

А ўмовай вызвалення была падпіска пра супрацоўніцтва. **Старонка 8.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Алкаеў:** Вярбоўка Міхалевіча не азначае вярбоўкі астатніх вызваленых. **Рымашэўскі:** Да мяне нічога такога не выкарыстоўвалася. **Служба інфармацыі КДБ:** Заява Міхалевіча не адпавядае рэчаіснасці. **Старонка 8.**



**«Хачу папрасіць вас усіх быць моцнымі»**

Пісьмы палітвязняў з турмы. **Старонка 6.**

## Памочнік Лукашэнкі апублікаваў артыкул, ад якога мароз па скуры

Ён хваліць сталінскую эканамічную мадэль. А ў падзенні СССР вінаваціць касыгінскія рэформы. Піша **Андрэй Дынько**.

«Пакуль мы ўсё яшчэ працягваем знаходзіцца пад эфектам той магутнай антысавецкай прапаганды, якая разгарнулася ў нашай былой супольнай Айчыне ў 80-я — 90-я гады мінулага стагоддзя. Мэта гэтай ідэалагічнай апрацоўкі зразумелая — унушыць людзям, што ўвесь папярэдні савецкі перыяд развіцця краіны нібы з'яўляўся недапушчальным сусветным прэцэдэнтам ўзмацнення ролі дзяржавы ў эканоміцы і жыцці грамадства», — так пачынаецца двухпалосны артыкул памочніка Лукашэнкі па эканоміцы Сяргея Ткачова «Паўней спазнаючы мінуласць, раскрываем сэнс будучыні».

Ткачоў хваліць Дэн Сяапіна і ганіць Гарбачова, але ў гэтым нічога новага, гэта стала для лукашэнкаўцаў агульным месцам. Памочнік Лукашэнкі ідзе далей.

«Цяперашнія, — піша Ткачоў, — буржуазна-ліберальныя тэндэнцыі неабходна разглядаць як... рэакцыю на крызіс савецкай мадэлі. Але за рэакцыяй непазбежна пойдзе зваротны працэс».

Г.зн. кола гісторыі павернецца назад, і савецкая сістэма вернецца.

Таму Ткачоў і аналізуе, што ў савецкай сістэме працавала, а што — не. Ён піша, што пры Сталіну сістэма планавання давала бліскучыя вынікі. «Беспрэцэдэнтнай складанасці задачы рашаліся беспрэцэдэнтнай жа энергіяй улады», «што забяспечыла выхад Савецкага Саюза ў сусветныя тэхналагічныя лідары».

Працяг на старонцы 2.

# Памочнік Лукашэнкі апублікаваў артыкул, ад якога мароз па скуры

Працяг са старонкі 1.

Ткачоў лічыць, што СССР быў у «лідарах» да 1970-х. Што ж здарылася пазней? Чаму рост рэзка замарудзіўся, што «прывяло да разбурэння краіны»? Прычына ў рэформе Касыгіна, піша Ткачоў. «Пасля рэформы 1965 года народная гаспадарка ўжо заставалася планавай толькі намінальна» (!).

Г.зн., што прычына развалу СССР — у адыходзе ад сталінскай эканамічнай мадэлі, у «эканамічным ханжастве» брэжнеўцаў, як гэта называе Ткачоў. Ён шкадуе, што ў 80-я не паслухалі таго акадэміка, які раіў, што «цяпер нельга абысціся без прамога ўмяшання як у рэгуляванне рэсурсавых патокаў, так і ў размяшчэнне ўсіх відаў рэсурсаў».

«Планавая сістэма кіравання — ...аб'ектыўна неабходны вынік гістарычнага развіцця», — піша Ткачоў.

Хтосьці можа пасмяяцца: эканоміка 2010-х гадоў — гэта зусім не эканоміка 1930-х, і чалавек цяпер не той. А тут таварыш разважае, як нам рэарганізаваць рабкрын. «Какое, мілые, у нас тысячелетье на дворе?» Але я б раіў успрыняць гэты артыкул сур'ёзна.

Гэтая публікацыя можа быць першай ластаўкай вяртання да адміністратыўных мер у гаспадарцы, у якой нарастаюць небяспечныя тэндэнцыі, а можа быць проста «крыкам душы» Ткачова. Але гэта, у кожным разе, сімптом.

Гэта кажа памочнік прэзідэнта ў краіне з суперпрэзідэнцкай сістэмай. Значыць, такія погляды параненейшаму дамінуюць ці, прынамсі, прысутнічаюць у «галоўнай бошцы краіны». А ўся прарынкавая рыторыка апошняга часу можа быць не больш чым НЭПам.

Вяртанне да сталінскай сістэмы ў эканоміцы непазбежна прывяло б да замарожвання і культурна-палітычнай сістэмы, якое мы назіраем у Паўночнай Карэі і Кубе. Яно прывяло б і да ўзмацнення эксплуатацыі чалавека, якая мела месца пры Сталіну ў сваіх крайніх формах.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Сярод лукашэнкаўцаў ёсць прагматыкі, а ёсць сталіністы. Злева направа: прэм'ер Мясніковіч, старшыня савета рэспублікі Рубінаў, кіраўнік Дзяржкантролю Якабсон на пасяджэнні палаты прадстаўнікоў.**

* * *

Пара заўваг на палях. Па-першае, «сваёй краінай» для памочніка Лукашэнкі застаецца СССР, не Беларусь.

Па-другое, асабісты момант. Малым я засынаў пад расказы таты, мамы, бабулі пра жыццё пры Сталіну, Хрушчову, за польскім часам, у вайну. Яны апавядалі пра голад 1947-га, пра хлеб з мякінаю пры Хрушчову, пра здзек з людзей, якія вымушаны былі па начах, потайкі — з рызыкай трапіць за гэта ў турму — касіць на ўзмежках, каб пракарміць карову, бо без каровы дзеці паўміралі б. Толькі пры Брэжневу, пасля касыгінскіх рэформаў для маіх продкаў жыццё вярнулася да элементарнай пабытовай нармальнасці, да сытасці. Магчыма, Ткачоў мае іншы асабісты вопыт. Магчыма, ягоныя продкі пры Сталіну ездзілі на ЗіМах за 40 тысяч рублёў. Былі ж і такія. Але гэта лірычны водступ, які прашу мне дараваць.

Для наймалодшых патлумачу, што пры Сталіну рост «магутнасці дзяржавы» забяспечваўся нялюдскай эксплуатацыяй 90% насельніцтва. Рабская пакора і згода на дармавую працу дасягалася з дапамогай крывавых рэпрэсій, што часам набывалі форму бойні. Вынішчаліся ўсе незадаволеныя, і нават патэнцыйна нелаяльных ліквідавалі прафілактычна. У адной Беларусі было рэпрэсавана каля 600 тысяч чалавек, каля 200 тысяч з іх загінула. Такая сістэма давала эфект эканамічнага росту, пакуль гаворка была пераважна пра экстэнсіўную распрацоўку прыродных багаццяў, заснаваную на палачнай дысцыпліне. Аднак як толькі прыйшоў час развіваць больш складаныя формы гаспадарання, сістэма аказалася няздольнай матываваць чалавека да эфектыўнай працы, што прывяло да крызісу і гібелі СССР.

## Сцісла

• **Веснавы перавод гадзіннікаў можа быць апошнім.** Беларускі інстытут метралогіі вырашыў рэкамендаваць ураду адмяніць пераход на зімовы час восенню 2011 года. Адзначаецца, што перавод гадзіннікаў не дае эканамічных плюсаў і шкодзіць здароўю. Спецыяльна падкрэсліваецца, што гэта ніяк не звязана з такой самай расійскай ініцыятывай. Аднак не тлумачыцца, чаму шкоду зімовага часу зразумелі толькі цяпер.

• **У Маскве пачалі перапісваць работнікаў з Беларусі.** Інструкцыі з патрабаваннем перапісаць грамадзян Беларусі, якія ў іх працуюць, паступілі ў вытворчыя арганізацыі і школы Масквы. Гаворка ідзе пра лісты з упраўлення Расстата. Афіцыйных каментароў з нагоды гэтай інфармацыі пакуль няма.

• **На «Еўрабачанне» ад Беларусі едзе песня пра «Беларашу».** На міжнародным конкурсе песні ў Дзюсельдорфе Беларусь прадставіць Настасся Віннікава з песняй Born in Bielorussia. Яе выбрала журы з прадстаўнікоў Першага канала, «Лада», АНТ і СТВ. «Еўрабачанне-2011» пройдзе ў Германіі 10—14 мая. Belorussia — гэта каланіяльны варыянт англамоўнай назвы Беларусі. Правільная назва — Belarus.

• **ЗША замарозілі маёмасць Лівіі на $30 мільярдаў даляраў.** Гэта адбылося, каб заблакаваць доступ да іх лідара Лівіі Муамара. Гэта самая вялікая сума, якую ўлады ЗША калісьці замарожвалі. Амерыка вырашыла замарозіць доступ да маёмасці, каб «захаваць яе для лівійскага народа».

• **Эстонскія нацыянальныя візы сталі для беларусаў бясплатнымі.** Эстонія 1 сакавіка адмяніла консульскі збор за доўгатэрміновую нацыянальную візу для грамадзян Беларусі. Міністр замежных спраў краіны Урмас Паэт заявіў, што мэта гэтага кроку — выказаць падтрымку грамадзянскай супольнасці Беларусі. Аналагічнае рашэнне, нагадаем, прынялі Польшча і Латвія.

• **У Мінск прыедзе Шакіра.** 19 мая на «Мінск-Арэне» выступіць знакамітая спявачка ліванa-калумбійскага паходжання Шакіра. Білеты на Шакіру будуць каштаваць ад 130 тыс. да 1 500 000 рублёў.

• **Гомель абвешчаны культурнай сталіцай СНД у 2011 годзе.** Пра гэта паведаміў міністр культуры Павел Латушка на прэс-канферэнцыі 28 лютага.

**СМ**

# Важная інфармацыя для тых, хто купляе «НН» у «Белсаюздруку»

«Белсаюздрук», якому належаць усе газетныя кіёскі Мінска, адмаўляецца браць у продаж больш чым 1800 экзэмпляраў «Нашай Нівы». Яны распрадаюцца цалкам. Афіцыйнае вяртанне складала ў студзені 2—3%. Гэта азначае, што ў рэальнасці купіць «Нашу Ніву» можна толькі ў сераду. Сапраўды, многія чытачы тэлефануюць, наракаюць, што газету купіць цяжка.

На нашы просьбы павысіць колькасць асобнікаў у продажы «Белсаюздрук» адказаў, што «не плануе павелічэнне тыражу». Выглядае, што абмежаванне тыражу мае палітычны характар. Газету раскупляюць пастаянныя чытачы, і яна менш трапляе на вочы новаму чытачу.

У сувязі з гэтым маем некалькі рэкамендацый:

**1.** Калі вы не здолелі купіць нумар у кіёсках «Белсаюздруку», пытайцеся газету ў найбліжэйшым аддзяленні «Белпошты» і ў прыватных распаўсюднікаў. На поштах «Нашу Ніву» таксама прадаюць.

**2.** Вельмі рэкамендуем падпісвацца. Так вы будзеце атрымліваць газету гарантавана. У той жа час і новыя чытачы будуць сутыкацца з газетай у кіёсках.

**3.** Просім кожнага з вас, хто не знаходзіць газеты ў сваім шапіку «Белсаюздруку», адразу кіраваць кароткі ліст наступнага зместу:

*ГРУП «Белсаюздрук»*
*220050 Мінск вул.Валадарскага, 16*

*Я, (імя, імя па бацьку, прозвішча), які пражывае па адрасе ..., не знаходжу ў продажы газеты «Наша Ніва» ў кіёску №..., дзе я прывык яе купляць. Прашу павялічыць колькасць экзэмпляраў гэтай патрэбнай мне газеты, якія паступаюць у гэты кіёск.*

*З павагай,*

...

## Самае чытанае на nn.by за 23 лютага — 1 сакавіка

- Міхалевіч: Мяне катавалі ў СІЗА КДБ.
- Лукашэнку асвісталі на хакейным матчы + відэа
- Рок-каранацыю ажывіў ШОС
- Памочнік Лукашэнкі апублікаваў артыкул, ад якога мароз па скуры
- Лукашэнка з 1 сакавіка адпускае цэны
- Ікорная апазіцыя, або Некалькі пытанняў Андрэю Дзмітрыеву
- «Гаарэц» публікуе аўдыёзапісы: самалёт Кадафі ўсё ж прылятаў у Мінск
- Канец валютнаму рынку. Лукашэнка патрабуе абмежаваць продаж валюты
- Суд над Атрошчанкавым, Малчанавым…
- Мапа беларускасці краіны

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 7500 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага пераказу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

Цана гэтай падпіскі — 8 520 руб. на месяц.

**Падпісныя індэксы ў каталогу «Белпошты»:** для людзей — 63125, для прадпрыемстваў — 631252. Падпісацца можна на кожнай пошце.

### Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

А.Ю. з Дрыбінскага раёна.
В.Ц., Уладзіміру Т. са Жлобінскага раёна.
Вользе П., Аляксею К. з Магілёва.
Ірыне Ц. з Жыткавіцкага раёна.
Т.К., І.З. са Смалявіцкага раёна.
Н.С. з Вілейскага раёна.
А.М. з Маладзечанскага раёна.
Міхаілу Ш. з Клімавіцкага раёна.
Ірыне Ш. з Браслаўскага раёна.
Д.Н., Віталію М., Гражыне К. з Лідскага раёна.

# Судны дзень

**У першы дзень вясны ў Мінску за Плошчу судзілі шэсць чалавек.**

Першыя суды над палітвязнямі выклікалі вялікі розгалас. У выніку адкрытыя пасяджэнні сталі як мага больш «закрытымі». У залы пачалі прапускаць толькі па дакументах і далёка не ўсіх. Пры гэтым бамбізы ў чорных куртках здымаюць усіх ахвотных трапіць на палітычны працэс на відэа.

Шэсць чалавек на трох судовых пасяджэннях — так былі размеркаваныя палітвязні 1 сакавіка. У Маскоўскім судзе Мінска працягнуўся суд над грамадзянамі Расіі Арцёмам Брэусам і Іванам Гапонавым. Там жа пачаўся суд над 51-гадовым дырэктарам будаўнічай фірмы Змітром Мядзведзем.

У судзе Фрунзенскага раёна сталіцы пачалі судзіць Аляксандра Атрошчанкава — прэс-сакратара Андрэя Саннікава. У адным пакеце з ягонай справай разглядаліся і справы Зміцера Новіка, Аляксандра Малчанава.

У судзе Маскоўскага раёна Мінска ў абодвух выпадках суддзі вырашылі зрабіць дзесяцідзённы перапынак. У працэсе расійскіх грамадзян гэта ўжо другая паўза. Першае пасяджэнне 22 лютага скончылася просьбай пракурора перакваліфікаваць абвінавачванні. Якім жа было здзіўленне прысутных у судовай зале, калі пракурор іх агучыў — там нічога не змянілася, знаёмыя выразы аб «узброеным супраціўленні супрацоўнікам праваахоўных органаў». Новым было толькі адно — пракурор знайшоў тузін новых сведкаў-міліцыянтаў, якія «моцна пацярпелі» на Плошчы ў той час, калі там былі Брэус і Гапонаў. У адказ на гэта адвакаты абвінавачаных падалі хадайніцтвы аб перапынку, неабходным для азнаямлення з новымі матэрыяламі справы, а таксама аб змяненні сваім падабаронным меры стрымання.

Суддзя адпусціць расіян пад падпіску адмовілася, спаслаўшыся на «сур'ёзнасць абвінавачванняў».

Новыя матэрыялы, прадастаўленыя суду пракурорам, таксама сталі прычынай дзесяцідзённага перапынку ў разглядзе справы Мядзведзя. Як і ў выпадку з расіянамі, суд над ім працягнецца 10 сакавіка.

Супраціў супрацоўнікам міліцыі, нанясенне шкоды Дому ўрада, актыўны ўдзел у масавых беспарадках — усе гэтыя стандартныя ўжо абвінавачванні прагучалі і на адрас Атрошчанкава, Новіка і Малчанава. Гэты працэс стаў цэнтральным у аўторак.

Падтрымаць хлопцаў прыйшлі родныя, палітыкі, дыпламаты, аднак адміністрацыя Фрунзенскага суда знайшла залу толькі на 35 чалавек.

З трох толькі Аляксандр Малчанаў прызнаў віну цалкам. Зміцер Новік заявіў, што можа часткова пагадзіцца з абвінавачваннямі пракурора, а Аляксандр Атрошчанкаў увогуле адмовіўся прызнаваць сябе вінаватым і нават аспрэчыў словы пракурора аб «масавых беспарадках». «Я не браў удзелу ў масавых беспарадках. Для мяне нават сумнеўна, што там былі беспарадкі. Не было ніякіх падпалаў, не было супраціўлення міліцыі. Было толькі разбіта некалькі шыбаў», — заявіў Атрошчанкаў.

Суддзя абвясціла перапынак да раніцы серады.

**Алесь Пілецкі**



**Аляксандр Атрошчанкаў.**



**Зміцер Мядзведзь.**

## Пан Гі Мун заклікаў абмеркаваць на Радзе Бяспекі ААН пастаўкі зброі з Беларусі

**ААН мае інфармацыю, што Беларусь парушыла эмбарга ў Кот-д'Івуары.**

Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун 28 лютага заклікаў тэрмінова склікаць пасяджэнне Рады бяспекі ААН для абмеркавання незаконных паставак зброі з Беларусі ў афрыканскую краіну Кот-д'Івуар у абыход эмбарга ААН. Пра гэта напісала газета «Уол-стрыт джорнал».

Напярэдадні ў сталіцу Кот-д'Івуара Ямусукро прыбылі тры баявыя верталёты з рыштункам. Аднак Рада бяспекі ААН не сабралася, бо міратворцам ААН у Кот-д'Івуары не ўдалося пацвердзіць факт прыбыцця верталётаў з Беларусі.

Прадстаўнікі ААН 28 лютага спрабавалі пабываць на лётнішчы Ямусукро, дзе стаяць верталёты, але былі вымушаныя адступіць пад абстрэлам з боку аховы.

У бюро генеральнага сакратара ААН падазраюць, што тры верталёты тыпу Мі-24 з Беларусі прызначаюцца сілам Ларана Гбагбо, які прайграў прэзідэнцкія выбары ў лістападзе летась, але адмовіўся сысці з пасады.

ААН непакоіцца, што беларускія верталёты, узброеныя кулямётамі і ракетамі, могуць абвастрыць канфлікт у краіне, якая знаходзіцца на мяжы новай грамадзянскай вайны.

Прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных 28 лютага абверг паведамленні, што Беларусь магла выслаць верталёты ў Кот-д'Івуар у абыход эмбарга ААН.

**Сяргей Гезгала**

КАМЕНТАР

# Ікорная апазіцыя,
## або Некалькі пытанняў Андрэю Дзмітрыеву

Андрэй Дзмітрыеў заявіў: «Лічу ГП найлепшай кампаніяй з таго, што было ў Беларусі». І сабраў журналістаў на бутэрброды з ікрой з нагоды гадавіны кампаніі.

Кампанія «Гавары праўду» пакінула больш пытанняў, чым адказаў.

Не падымалася рука ставіць тыя пытанні, пакуль людзі сядзелі ў турме. Аднак бутэрброды з ікрой не пакідаюць выбару: раз гэтыя людзі маюць намер заставацца ў палітыцы, трэба задаць ім некаторыя пытанні.

Накont «Гавары праўду» хадзіла шмат чутак, але былі і факты. Галоўны факт. Кампанія «Гавары праўду» мела вялікія грошы ў сваім распараджэнні — столькі беларуская апазіцыя ніколі не мела. Паходжанне гэтых грошай застаецца нявысветленым. Някляеў па-рознаму яго тлумачыў.

З некаторых апублікаваных матэрыялаў можна зрабіць вывад, што не толькі Уладзімір Някляеў (што было заўважна і да выбараў), але, магчыма, і Андрэй Дзмітрыеў і Аляксандр Фядута (што ўражвае) не ведалі, ад каго яны атрымалі тыя першыя грошы.

Калі гэта так, тады выходзіць, што іх выкарысталі ўцёмную. І гэта мог быць хто заўгодна. Нават адна з беларускіх спецслужб.

Паўтаруся, гэта толькі адна з гіпотэз, якая здольна лагічна паяднаць шэраг нелагічных, на першы погляд, фактаў.

Часам можна пачуць: якая розніца, чые то былі грошы. Але ў дадзеным выпадку: чые грошы — таго і мера.

Нагадаю, што спачатку ўсе думалі, што гэта грошы з Расіі. І Някляеў на тое намякаў. Але развіццё падзей не дало ніякіх падстаў далей меркаваць, што тыя грошы былі з Расіі.

У апублікаваных «Советской Белоруссией» матэрыялах нехта М1, якога назіральнікі ідэнтыфікавалі як аднаго з кіраўнікоў «Гавары праўду», сам гадае, адкуль былі тыя грошы, і выказвае гіпотэзу, што яны нямецкія. Па-мойму, гэта трызненне. Разумею, што грунтавацца на тых матэрыялах няможна, але яны вартыя ўдумлівага аналізу.

На ўсе непрыемныя пытанні будзе лягчэй адказаць, калі выйдуць на свабоду Някляеў і Фядута, калі скончыцца — дай бог спынены будзе — гэты паказальны працэс. Але, можа быць, адказы прагучаць і толькі тады, калі адкрыюцца архівы спецслужбаў.

У кожным разе, з таго, што мы ведаем, мы не ведаем галоўнага. Ці была кампанія «Гавары праўду» вынікам чыйгосьці натуральнага грамадзянскага памкнення? Ці, наадварот, яна была чыёйсьці спробай палітычнага інжынірынгу з мэтай узмацніць ікраныя трэнды ў апазіцыі, атрымаць апазіцыйны механізм, ключы ад якога будуць у яго ў руках?

Хачу — дам на бутэры з ікрой.
Хачу — пасаджу на галодны паёк.

Ці, дакладней, атрымаць ідэальную змову. Якую можна павесіць на Захад або Расію — у залежнасці ад таго, хто не прызнае выбараў. Або на ўсю апазіцыю.

Нагадаем, што, сыходзячы з фактаў, рашэнне пра кампанію «Гавары праўду» прымалася ў пачатку 2010-га, а можа быць і ў канцы 2009 года, калі было няясна, што беларуская апазіцыя будзе рабіць на выбарах і што рыхтуюць Расія і ЗША.

Застаюцца нявысветленымі і многія важныя абставіны падзей 19-га і пасля 19-га. Не высветліўшы іх, не адказаўшы на складаныя пытанні, Андрэю Дзмітрыеву і Сяргею Вазняку не варта працягваць рабіць выгляд, што «усё харашо, прекрасная маркіза». Яшчэ не астылі тэлевізары, у якіх Андрэй Дзмітрыеў дзякаваў міліцыі за яе дзеянні 19 снежня (за што Дзмітрыеву, у сваю чаргу, падзякаваў Лукашэнка). Яшчэ не стала ясна, чаму Дзмітрыева выпусцілі, а Фядуту і Някляева — не. Нарэшце, за месяц «найлепшая кампанія» не зладзіла ніводнай (!) акцыі салідарнасці пад вокнамі свайго зняволенага кіраўніка.

У кожным разе, не відаць падставы для таго, каб есці бутэрброды з ікрой. Як не было іх відаць год назад.

**Андрэй Дынько**

**P.S.** Прэс-канферэнцыя на гадавіну кампаніі «Гавары праўду» адбылася, і яе кіраўнікі рапартавалі аб поспехах. У пісьмовым выглядзе гэты рапарт быў апублікаваны ў газеце «Народная воля». Крытыка наконт «ікры», размешчаная ў інтэрнэце напярэдадні, падзейнічала. «Ікру» перавялі ў жарт. У адрозненне ад мінулага года, замест чырвонай прынеслі баклажанную. Бляшанку ж чырвонай перадалі аўтару гэтых радкоў. Маўляў, ацаніце наша пачуццё гумару. І ўсё адно застаўся прысмак недарэчнасці: прэс-канферэнцыя пачалася ўсяго праз гадзіну пасля шакуючых прызнанняў Міхалевіча (старонка 8) — якія тут жарты.

## Старшыня афіцыйнага Саюза палякаў: Ды хрэн з ёй, з Польшчай!

Дэпутаты палаты прадстаўнікоў звярнуліся ў Канстытуцыйны суд з просьбай вызначыць адпаведнасць польскага закона «Пра карту паляка» прынцыпам міжнароднага права. Такую ідэю ім падаў старшыня афіцыйнага Саюза палякаў Станіслаў Сямашка.

Старшыню Саюза палякаў Польшча ўключыла ў спісы неўязных у Еўропу. Гэта і падштурхнула яго да кроку ў адказ. Вось што сказаў Станіслаў Сямашка ў інтэрв'ю «Еўрарадыё»: «Хацелася б іх [кіраўніцтва Польшчы] паставіць на правільны шлях. Якое яны маюць права нас, палякаў, не ўпускаць?! Мы не хочам у іх краіну, а вось у іншыя краіны Еўрасаюза мы хочам! А яны: «Не — не ўязджаць!» Даруйце мяне, ды хрэн з ёй, з іх краінай! Але якое яны маюць права рабіць, што я ў Літву не маю права ехаць?! Гэта прыніжэнне!»

**СГ**

# Перасядзем на «Лады» і не піснем?




«Стоп» еўрапейскім патрыманым аўто.

### Пошліны на ўвоз аўтамабіляў узрастуць больш чым у чатыры разы.

Намеснік старшыні Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі Сяргей Барысюк заявіў, што мыта на ўвоз аўтамабіляў для фізічных асоб у Беларусі з 1 ліпеня 2011 года ўзнімецца да ўзроўню, як у краінах Мытнага саюза.

Гэтыя змены былі чаканымі, бо інфармацыя пра іх з'явілася ў канцы 2009 года і выклікала рэзкую незадаволенасць грамадства. Тады Лукашэнка прыняў палавінчатае рашэнне. Новыя стаўкі датычыліся толькі юрыдычных асобаў, а вось для фізічных асобаў ён вытаргаваў у Расіі адтэрміноўку на паўтара года. Цяпер прыйшоў час выконваць абяцанні.

Такім чынам, з 1 ліпеня мыта ўзрасце больш чым у 4 разы. Для кожнага канкрэтнага аўтамабіля стаўка вырасце па-рознаму. Напрыклад, для машыны да 3 гадоў мыта павялічыцца з 840 еўра да 3500 ці 4320 еўра. Што датычыць патрыманых аўтамабіляў ад 3 да 5 гадоў з аб'ёмам рухавіка 2000 куб. см, то тут стаўка павялічыцца з 0,4 еўра да 2,7 еўра. Агульная сума мыта ў выніку вырасце з 800 еўра да 5400 еўра.

#### ГАЗавы закуп

Як адрэагаваў аўтарынак на павелічэнне мытаў год таму? Статыстыка сведчыць, што ўвядзенне расійскіх правілаў для юрасобаў дазволіла павялічыцца продажам ВАЗаў, ГАЗаў і іншых расійскіх аўтамабіляў ажно на 81% — з 2 107 да 3 813 машын!

У 2009 у краіне было прададзена 15 282 новыя замежныя аўто. З іх усяго 13,8% (2107 аўто) былі расійскімі. А вось за наступны год, пасля ўвядзення мытаў, машын расійскіх брэндаў стала ўжо 30% — 3 813 з 12 899.

Цікавая і статыстыка продажаў новых аўтамабіляў па брэндах. У 2010 годзе лідарства захапілі расійскія ВАЗ і ГАЗ — 11,9% і 11% рынку адпаведна. За імі шлі Volkswagen (9,4%) і Daewoo (7,7%). У пяцёрцы лепшых быў яшчэ адзін «расіянін» — УАЗ (6,1%). Статыстыка «брэндаў» не ўлічвае, што шмат якія нямецкія і карэйскія аўто насамрэч збіраюцца ў Расіі. Таму ў рэальнасці лічбы расійскіх аўто яшчэ больш высокія.

#### Аншлаг на аўтарынках

Навіна пра будучае ўвядзенне мытаў выклікала ажыятаж на аўтарынках. Літаральна за пару дзён цана машын падня лася на $500—1000. І гэта не мяжа цэн, прызнаюцца прадаўцы.

Задача перагоншчыкаў зараз — распрадаць застаялы тавар і напрыганяць за бліжэйшыя чатыры месяцы аўтамабіляў пра запас.

«Варта чакаць другой хвалі ажыятажу на патрыманыя аўто, — кажа мінскі перагоншчык Аляксей. — За першае паўгоддзе 2010 года беларусы «выбралі» ледзь не ўвесь літоўскі рынак. Скуплялі ўсё, што магло хоць неяк дабрацца да літоўска-беларускай мяжы.

Як усе памятаюць, тады мыты так і не выраслі. Шчыра кажучы, і цяпер мы, перагоншчыкі, будзем да апошняга верыць, што ў апошні момант новыя мыты не ўступяць у сілу».

**Яўген Васількоў**

## Канец чыстаму валютнаму рынку

### Лукашэнка патрабуе абмежаваць продаж валюты.

«Хачу звярнуць прынцыповую ўвагу прэм'ер-міністра і старшыні праўлення Нацыянальнага банка: мы недапушчальна расхлябана ставімся да выкарыстання валютнай выручкі», — заявіў Аляксандр Лукашэнка на нарадзе з урадам.

«Няма валюты — прасі ў тых, у каго гэта валюта ёсць», — сказаў Аляксандр Лукашэнка. «Гэта прынцыповае пытанне нашай эканомікі, і мы павінны падкарэктаваць нашу палітыку, а не грунтавацца на нейкай голай рыначнай тэорыі», — сказаў ён.

«Я не кажу, што ўсіх трэба заціснуць. Насельніцтва — гэта святое. І ў нас насельніцтва праблем з валютай не стварае», — супакойваў Лукашэнка грамадзян.

«Упэўнены, што гэта дасць нармальны эфект, і мы не будзем мець больш праблем з валютай, курсам і гэтак далей», — дадаў ён.

Гэта можна разглядаць як загад на ўвядзенне адміністратыўных мер рэгулявання валютнага рынку і абмежаванне свабоднай куплі валюты. Такая сітуацыя існавала ў 1990-я гады.

Пераход да адміністратыўных механізмаў у галіне валютнай палітыкі амаль непазбежна выкліча і меры ў аналагічным кірунку ў іншых сферах.

**Сяргей Гезгала**




Ці вытрымаюць дэпазіты выпрабаванне дэвальвацыяй?

## Уклады ў рублях перастаюць быць выгаднымі

### Патэнцыйная 8-працэнтная дэвальвацыя робіць валютныя дэпазіты больш перспектыўнымі.

Кіраўнік Нацбанка Пётр Пракаповіч падчас сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам запэўніў, што «курс нацыянальнай валюты да кошыка замежных валют сёлета будзе ў межах абвешчанага калідора плюс/мінус 8%». Пры гэтым за першыя два месяцы ўзровень дэвальвацыі ўжо склаў амаль 4%.

Такую фінансавую палітыку ўхваляе Міжнародны валютны фонд, прадстаўніца арганізацыі ў Беларусі Наталля Калядзіна заклікае ўладу дэвальваваць валюту ў рамках вызначанага калідора. Гэта, на яе думку, дапаможа знізіць дэфіцыт бягучага рахунку, які ў 2011 годзе набыў пагрозлівыя памеры. У студзені золатавалютныя запасы знізіліся амаль на $700 мільёнаў. Прычым валютныя запасы ўпалі да ўзроўню, найніжэйшага ад 2007 года.

Рэальнасць 8%-ай дэвальвацыі ставіць перад насельніцтвам выбар, на якіх дэпазітах трымаць ашчаджэнні. Ці варта давяраць высокай стаўцы рублёвых укладаў?

Параўнаем стаўкі, якія прапануюць беларускія банкі, па ўкладах тэрмінам на адзін год. У валютным сектары самыя выгадныя прапановы складаюць 8,5—9% у Беларускага народнага банка. Паклаўшы на рахунак $500, праз год можна атрымаць $542—545. Такія ж умовы і для ўкладаў у еўра.

Каб не атрымаць страты ў выпадку 8%-ай дэвальвацыі, трэба знайсці рублёвыя ўклады, у якіх стаўка гадавых будзе кампенсаваць розніцу. Найлепшая рублёвая прапанова тэрмінам на адзін год прадугледжвае 17% гадавых у «Белінвестбанка». Здаецца, вялікая стаўка, але яна плывучая. Гэта значыцца, што банк можа змяніць яе ў аднабаковым парадку. Сярод прапаноў з фіксаванай стаўкай вылучаецца прапанова ад «РРБ-Банка». Банк абяцае 16% гадавых з размяшчэннем грошай на паўгода. Але няма ніякай гарантыі, што праз паўгода стаўка застанецца такой самай. У дадатак, у выніку незапатрабавання ўкладу ва ўсталяваны тэрмін працэнтная стаўка зменшыцца ўдвая. Сярод іншых варыянтаў застаецца дэпазіт ад Беларускага народнага банка з 15% гадавых.

Калі згадзіцца на яго і пакласці на рахунак эквівалент $500 — 1 510 000 рублёў, то праз год можна атрымаць 1 736 500 рублёў. Пры ўмове, што даляр ад пачатку года сапраўды падаражэе на 8%, яго курс дасягне 3240 рублёў. Гэта значыцца, што на руках у «рублёвага ўкладчыка» застанецца $536.

У апісанай сітуацыі для беларуса, які абярэ валютны ўклад, выйгрыш з кожных $500 складзе каля $10.

**ЯВ**

## Заробак $500 пратрымаўся роўна адзін месяц

### У студзені рэальная зарплата зменшылася на 13%

у параўнанні з паказчыкам снежня 2010 года. Такія звесткі апублікаваў Белстат.

Намінальная налічаная сярэдняя зарплата работнікаў Беларусі ў студзені 2011 года склала 1 409 600 рублёў — гэта $467 у эквіваленце. Больш за ўсё атрымліваюць навукоўцы і навуковае суправаджэнне (1 838 000 рублёў), найменш — работнікі сельскай гаспадаркі, палявання і лясной гаспадаркі — 952 тысячы рублёў.

**ЯВ**

## Сцісла

• **Для мінскіх чаргавікоў у гарадах-спадарожніках крэдыт будзе 1%.** Працягласць выплат складзе 40 гадоў. Для тых, хто будуецца ў сталіцы, умовы выглядаюць наступным чынам: 5% на 20 гадоў. Гэта робіцца для стварэння прывабных умоў па будаўніцтве жылля ў гарадах-спадарожніках. Ужо сёлета ў Смалявічах плануецца пачаць будаўніцтва першага дома для жыхароў сталіцы. На рэалізацыю праграмы накіруюць больш за $5 мільёнаў.

• **Мясніковіч арыентуецца на «азіяцкіх тыграў».** «Каб выканаць задачы па падняцці ўзроўню жыцця беларусаў і яго якасці, нам трэба выйсці на тэмпы развіцця Кітая, Паўднёвай Карэі, Сінгапура і іншых азіяцкіх тыграў», – заявіў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч. Ён паабяцаў змагацца з залішняй цэнтралізацыяй, але пры гэтым зрабіць стаўку на холдынгі.

• **Лукашэнка адпусціў цэны, але пакінуў спіс «сацыяльна значных тавараў і паслуг».** У Беларусі з 1 сакавіка 2011 года лібералізавана цэнаўтварэнне. Цяпер юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі не павінны прадастаўляць эканамічныя разлікі пры вызначэнні цэн і тарыфаў.

• **Дзяржаўны доўг Беларусі за студзень вырас на 7,3% (больш чым на мільярд даляраў) і дасягнуў 41,136 трыльёна рублёў.** Гэта $13,6 мільярда ў эквіваленце. Пры гэтым замежны доўг складае $10,53 мільярда, а ўнутраны — $3,08 мільярда. Нагадаем, што агульны замежны доўг краіны складае на сёння каля $27 ці 28 мільярдаў. Дакладная лічба яшчэ не агучваецца.

• **Прадаюцца калгасы Лукашэнкі і Пракаповіча.** 12 стратных калгасаў па ўсёй краіне былі бясплатна перададзеныя Нацбанку ў 2004 годзе. Сярод іх арганізацыя з радзімы Пракаповіча і лукашэнкаўскае «Александрыйскае». Цяпер па просьбе МВФ Нацбанк адмаўляецца ад падтрымкі калгасаў. Ідзе пошук інвестара.

**ЯМ**

# Ізраільская газета: Самалёт Кадафі прылятаў у Мінск

У інтэрнэце апублікаваны аўдыёзапіс перагавораў дыспетчараў з пілотамі.




Прыватны самалёт Муамара Кадафі Dassault Falcon 900EX (бартавы нумар 5A-DCN) здзейсніў чартарны рэйс з Трыпалі ў Мінск і назад. Пра гэта паведамляе цэнтральная ізраільская газета «Гаарэц».

Рух самалёта вылічылі так званыя плэйнспотэры — назіральнікі за палётамі авіялайнераў.

Паводле апублікаваных у інтэрнэце аўдыёзапісаў, борт вылецеў з Трыпалі ў пятніцу 25 лютага і вярнуўся ў нядзелю 27 лютага ў 12.30. З Мінска ён вылецеў у 9.30.

Паводле інфармацыі ізраільцянаў, самалёт прызямліўся ў аэрапорце Мітыга на ўсход ад Трыпалі.

«Дасо Фалькон» — адзін з трох самалётаў Кадафі. Ён таксама карыстаецца двума аэробусамі большага памеру.

У прэсе з'явіліся самыя розныя версіі, нашто асабісты самалёт Кадафі прылятаў у Мінск. Haaretz лічыць, што ў Мінск магла адправіцца сям'я дыктатара. Газета адзначае цесныя сувязі між Лукашэнкам і Кадафі ў вайсковай, палітычнай і эканамічнай сферах.

Напярэдадні самалёты з Лівіі спрабавалі сесці ў Бейруце (Ліван) і на Мальце. Аднак дыспетчары не далі пасадкі пасля таго, як ім адмовіліся паведаміць, хто ляціць на борце.

Інфармацыя пра палёт «Фалькона» з'явілася ў панядзелак. Раней ізраільская радыёстанцыя «Кол Ісраэль» паведамляла, што ў аэрапорт Мінска прыбыў самалёт з грашыма і золатам Кадафі. А яшчэ на некалькі дзён раней у інтэрнэце з'явілася інфармацыя пра таемны візіт у Мінск эмісара Кадафі, начальніка галоўнага ўпраўлення тылу і вытворчасці Часовага галоўнага народнага камітэта абароны Лівіі Абдэрахмана Сеіда, які нібыта прыехаў па зброю.

МЗС Беларусі паспяшалася абвергнуць тыя чуткі, аднак абвергнуць сам палёт наўрад ці ўдасца. У інтэрнэце выставілі аўдыёзапісы перамоваў венгерскіх і мальтыйскіх дыспетчараў з экіпажам самалёта Кадафі.

Хто мог запісаць гэтыя перамовы? Газета піша, што гэта былі радыёаматары. Аднак не выключана, што перамяшчэнні самалётаў з Лівіі адсочваюць і ізраільскія спецслужбы. Яны палічылі факт палёту асабістага самалёта Кадафі займальным. І сапраўды, чаму паветраная машына вылецела і вярнулася ў ахопленую паўстаннем краіну?

**Сяргей Гезгала**

## Кадафі пагражае міжнародны трыбунал

Рэзалюцыя Рады Бяспекі ААН: рашэнне прынятае аднагалосна, у тым ліку галасамі Расіі і Кітая.

Рада Бяспекі ААН у Нью-Ёрку аднагалосна прыняла рэзалюцыю па сітуацыі ў Лівіі. Яна заклікае ўлады Лівіі «неадкладна спыніць гвалт і адказаць на законныя патрабаванні насельніцтва».

Акрамя таго, рэзалюцыя заяўляе, што напады на мірных грамадзян могуць быць расцэнены як злачынствы супраць чалавецтва. У гэтым выпадку справа можа быць разгледжана ў Міжнародным трыбунале ў Гаазе. Трыбунал пачаў ужо збіраць факты пра падзеі ў Лівіі.

Рада Бяспекі ААН прыняла рашэнне пра замарожванне ўсіх рахункаў і маёмасці, што належыць сям'і Кадафі.

Уводзіцца эмбарга на пастаўкі зброі ў Лівію.

На Кадафі, ягоных дзяцей і кіраўнікоў сілавых структур Лівіі накладаюцца візавыя санкцыі.

Рэзалюцыя таксама заклікае лівійскія ўлады зняць абмежаванні на дзейнасць СМІ і прыняць меры для забеспячэння бяспекі замежных грамадзян.

За рэзалюцыю галасавалі ў тым ліку Кітай і Расія, якія рэдка падтрымліваюць ініцыятывы, звязаныя з правамі чалавека. Вар'яцкія паводзіны Кадафі, аднак, аб'яднালі процілеглыя лагеры ў міжнароднай супольнасці.

Нават намеснік кіраўніка лівійскай місіі пры ААН прывітаў прынятую рэзалюцыю як «маральную падтрымку народа Лівіі». Ён выказаў надзею, што яна паскорыць канец «гэтага фашысцкага рэжыму».

Як і дзясяткі іншых дыпламатаў і чыноўнікаў, ён перайшоў на бок апазіцыі.

Папуліст Кадафі быў эксцэнтрычным лідарам. Ён адмаўляў дэмакратыю заходняга ўзору і разлічваў перадаць уладу сваім сынам. Сябе ён пазіцыянаваў як самародка з народа.

З часам ён стаў лічыць сябе непераможным, геніяльным палітыкам.

На пачатку свайго кіравання ён насіўся з ідэямі стварэння адзінай арабскай дзяржавы і нават заключыў дамову пра саюзную дзяржаву з Егіптам і Сірыяй. Аднак у выніку рассварыўся з саюзнікамі. У Лівіі ён стварыў сістэму псеўдадэмакратыі — Джамахірыю. Пры гэтым кіраўніцтва краіны не выбіралі, а ўлада фармальна належала бутафорскаму прадстаўніцтву кшталту Усебеларускага народнага сходу.

Па сваім палітычным стылі Кадафі быў тыповым папулістам.

Палітычныя эліты як Захаду, так і арабскага свету ўспрымалі Кадафі як выскачку. Ён, у сваю чаргу, быў пераcвараны з большасцю калег, у тым ліку суседзямі. Пасябраваў ён апошнім часам з Лукашэнкам, Чавесам і непераборлівым Берлусконі — для якога маюць значэнне толькі бізнэс-інтарэсы.

Урэшце сталася так, што цяпер Кадафі — унікальны выпадак — няма куды ўцякаць з краіны. Ягоны тунiскі калега знайшоў прытулак у Саудаўскай Аравіі. А Кадафі раскрытыкавала нават Венесуэла. Гэта можа зрабіць ягоны канец больш крывавым. Як пазбегчы такога варыянта, цяпер ламаюць галовы заходнія дыпламаты. Можа быць, Мінск? Беларускія ўлады маўчаць.

У часе дыскусіі ў Радзе Бяспекі ААН Расія выступіла супраць сілавога ўмяшання ў Лівіі.

На думку расійскага прадстаўніка, гэта магло б «ускладніць сітуацыю» ў краіне. Справа можа быць у тым, што магчымасці для ваеннай аперацыі там мае толькі НАТА, а гэта ўзмацніла б пазіцыі краін альянсу ў новай Лівіі, чаго Расія не хоча.

Не ўвяла Рада бяспекі ААН і забарону на палёты над Лівіяй, што прасіла лівійская апазіцыя.

Самалёты ёсць толькі ў Кадафі, і гэта стрымлівае паўстанцаў ад вайсковай аперацыі супраць дыктатара. Устрыманне міжнароднай супольнасці ад такіх мераў можа прывесці да зацяжкі канфлікту, новых ахвяраў і ўтварэння патавай сітуацыі.

**Сяргей Гезгала**




**Беларуска-лівійскія кантакты**

Муамара Кадафі з Аляксандрам Лукашэнкам звязваюць даўнія «асаблівыя адносіны». Беларускі кіраўнік наведваў Лівію з афіцыйным візітам у 2000. Візіт Кадафі ў адказ адбыўся ў лістападзе 2008. У снежні 2009 падчас візіту ў Трыпалі беларускай дэлегацыі на чале з міністрам абароны Юрыем Жадобіным быў падпісаны двухбаковы пратакол аб супрацоўніцтве ў галіне абароны. У чэрвені 2010 лівійскія вайскоўцы на чале з сынам Кадафі назіралі за вучэннямі Узброеных сіл Беларусі пад Баранавічамі.

**Лівія: двоеўладдзе**

Кадафі працягвае кантраляваць сталіцу краіны і свой родны горад Сірт. Але амаль усе астатнія гарады паўсталі. Цэнтрам паўстання стаў другі па памеры горад краіны — Бенгазі. Менавіта там з дэманстрацыі ў абарону адваката, які бараніў простых палітвязняў, усё і распачалося. Першыя пратэсты адбыліся 14 лютага, а 17 лютага яны перараслі ў вулічныя баі з паліцыяй. Да паўстання сталі далучацца ўсё новыя гарады.

На сёння на бок апазіцыі перайшлі многія генералы і міністры. У будынку суда ў Бенгазі адбываюцца пасяджэнні па стварэнні часовага ўрада краіны. Яго можа ўзначаліць былы міністр юстыцыі з урада Кадафі.

### У сям'і Кадафі выяўлена $20 мільярдаў у Брытаніі. Усё будзе сканфіскавана

Нерухомасць у Лондане і сродкі ў англійскіх банках, якія належаць Муамару Кадафі, у бліжэйшыя дні будуць канфіскаваныя, піша The Telegraph у пятніцу.

Выданню ўдалося высветліць, што казначэйства Вялікабрытаніі сфармавала спецыяльнае падраздзяленне для пошуку сродкаў сям'і Кадафі, перапраўленых у краіну.

У ходзе расследавання высветлілася, што лівійскі лідар мае шматмільярдавыя даляравыя рахункі ў ангельскіх банках, а таксама камерцыйную нерухомасць і асабняк у Лондане — на агульную суму $ 20 млрд.

«Галоўнай задачай уладаў цяпер з'яўляецца эвакуацыя брытанскіх падданых з Лівіі. Але адразу пасля гэтага мы зоймемся актывамі Кадафі, гэта прыярытэтны накірунак», — заявіла выданню крыніца ў брытанскім урадзе.

МЗС Лівіі абверг інфармацыю аб наяўнасці ў швейцарскіх банках рахункаў Кадафі, пра што раней заявілі ўлады Швейцарыі.

## Мядзведзеў: дзеянні Кадафі могуць быць кваліфікаваныя як злачынства

Кіраўніцтва Расіі асуджае ўжыццё ўладамі Лівіі сілы супраць мірных грамадзян, знішчэнне грамадзянскага насельніцтва будзе кваліфікавана як злачынства, заявіў прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў.

«У Маскве сур'ёзна занепакоеныя падзеямі, якія адбываюцца ў Лівіі. Расія асуджае ўжыццё сілы супраць мірных грамадзян, санкцыянаванае кіраўніцтвам краіны», — гаворыцца ў заяве прэзідэнта Расіі па лівійскай праблеме.

«Мы рашуча заклікаем цяперашнія ўлады Лівіі, усіх адказных палітычных дзеячаў краіны да стрыманасці з тым, каб не дапусціць далейшага пагаршэння сітуацыі, знішчэння грамадзянскага насельніцтва. У адваротным выпадку падобнага роду дзеянні будуць кваліфікаваныя як злачынства з усімі вынікаючымі з міжнароднага права наступствамі», — гаворыцца ў заяве Мядзведзева.

**СГ**

### CNN задаецца пытаннем, чаму б ЗША не забіць Кадафі кропкавым ракетным ударам

ЗША павінны сур'ёзна разгледзець пытанне аб фізічнай ліквідацыі Муамара Кадафі, было сказана ў эфіры амерыканскай тэлекампаніі CNN.

«Чаму б для прадухілення гібелі тысяч людзей не забіць Кадафі кропкавым ракетным ударам?» — некалькі разоў пытаўся ў сваіх гасцей вядучы CNN Вольф Бліцэр.

Гэтае пытанне ён задаваў і экс-кіраўніку камітэта палаты прадстаўнікоў кангрэса ЗША па пытаннях знешняй выведкі Піту Гукстры.

«Я магу сказаць, што выведка ЗША не ведае, дзе дакладна знаходзіцца Кадафі ў дадзены канкрэтны момант. Ён увесь час перамяшчаецца. Я не думаю, што яго можна вось так ліквідаваць кропкавым ударам», — сказаў Гукстра.

Кадафі не быў абраны на свабодных выбарах, ператварыў Лівію ў асабістую дыктатуру. Ён не раз парушаў нормы міжнароднага права, напрыклад, арганізоўваў тэрарыстычныя акты ў іншых дзяржавах.

**СГ**

# «Хачу папрасіць вас усіх

Лісты палітвязняў з турмы.

Міхалевіч з турмы КДБ прасіў дачку маляваць. Дашкевіч сканчае свой ліст вытрымкай з Біблії чырвоным стрыжнем. Лісты ад Саннікава прыходзяць у канвертах «Дажынкі»... «Наша Ніва» сабрала ў родных і сяброў лісты, дасланыя з турмаў.

Для ўсіх вязняў перапіска — адзіны кантакт з людзьмі на волі. Кожны палітвязень з трымценнем і надзеяй атрымлівае чарговы ліст. Сваякі і сябры некаторых вязняў пагадзіліся апублікаваць іх лісты.

### Андрэй Саннікаў

Маці Андрэя Саннікава Ала ўпершыню ў жыцці атрымала віншаванне з днём народзінаў ад сына на простым аркушы паперы са сшытка. Па недарэчным супадзенні лісты з «амерыканкі» ад кандыдата ў прэзідэнты прыходзяць з лагатыпам галоўнага свята лукашэнкаўцаў — «Дажынкі».

### Мікалай Статкевіч

Мікалай піша лісты свайму бацьку ў Баранавічы і грамадзянскай жонцы Марыне Адамовіч у Мінск. Як кажа Марына, там шмат прыватнага — пра палітыку і свае погляды не так і шмат радкоў. Адзіным палітычным крокам, пра які напісаў у лісце з турмы КДБ Мікалай Статкевіч, было рашэнне спыніць галадоўку.

### Алесь Міхалевіч

Алесь Міхалевіч, знаходзячыся ў турме КДБ, адкуль яго выпусцілі 19 лютага, ліставаўся з жонкай і старэйшай дачкой Лесяй. Алесь прасіў дачку дасылаць яму разнастайныя малюнкі і паштоўкі — гэта для яго было важней за матэрыяльныя перадачы. Адміністрацыя «амерыканкі» перлюстравала паштоўкі дачкі. Вядома, што некаторыя малюнкі ад дачкі Міхалевіч так і не атрымаў.

### Аляксандр Атрошчанкаў

Прэс-сакратар Андрэя Саннікава Аляксандр Атрошчанкаў у лістах да сваёй жонкі Дар'і Корсак паведамляе пра аднастайнасць, што атачае яго ў турме КДБ. Пры гэтым Аляксандр просіць жонку не хвалявацца і ў кожным лісце супакойвае яе.

### Зміцер Дашкевіч

З жодзінскай турмы старшыня Маладога Фронту Зміцер Дашкевіч актыўна лістуецца з сябрамі і сваякамі. Просіць дасылаць больш канвертаў і стрыжняў. Кожны ліст Зміцер сканчае вытрымкай з Бібліі, якую піша чырвоным стрыжнем. Сябры і паплечнікі кажуць, што гэта ўжо такі стыль пісьма Дашкевіча ў няволі — так ён пісаў падчас папярэдняй палітычнай адседкі.

### Наста Палажанка

Палажанка была самай маладой з усіх палітвязняў «Плошчы-2010». Яе выпусцілі пад падпіску пра нявыезд 17 лютага (гл. №8 «НН»). Падчас адседкі ў турме КДБ яна ліставалася толькі з бацькам, які яе гадаваў адзін. Сябры і паплечнікі яе лістоў не атрымлівалі.

### Эдуард Лобаў

Лісты ад Эдуарда Лобава праштампоўваюцца пячаткай турмы №8 у Жодзіне, дзе ён цяпер знаходзіцца.

### Павал Севярынец

Тацяна Севярынец для свайго сына Паўла выбірае нават узор канвертаў, бо ведае, што нават малюнкі на іх хоць неяк разбаўляюць візуальную аднастайнасць камеры «амерыканкі». Як кажа Тацяна, гэта часцей за ўсё канверты з партрэтамі выбітных беларускіх пісьменнікаў. Лісты Паўла Севярынца да маці Тацяны поўныя аптымізму і ўпэўненасці ў сваёй праўдзе.

**Сяргей Гудзілін**


Вітаю, Лесенька!
Пішу, каб сказаць, што ў мяне добры настрой. Вельмі спадзяюся цябе дастаткова хутка ўбачыць.
Вельмі цябе люблю!
Пішы, хаця б пару словаў.
Тата Алесь
06.02.2011 г
вечар

**Старэйшая дачка Алеся Міхалевіча ўсё жыццё будзе памятаць, што такія лісты ад таты з турмы.**


Вось такія справы, тап.
Усім вялікае прывітанне!

**Тата змагаўся за вызваленне Насты Палажанкі, як мог, і гэтыя пісьмы, напэўна, захавае назаўжды.**



**Збор подпісаў за вызваленне палітвязняў на плошчы Незалежнасці ў Мінску.**

**«Вызваленне»: Палітвязняў раздзяваюць дагала і ўжываюць іншыя катаванні**

Сваякі палітвязняў распавялі еўрапейскім дыпламатам аб жахлівых ўмовах утрымання ў ізалятарах КДБ і МУС.

«Умовы ўтрымання палітвязняў нялюдскія і могуць быць прыроўненыя да катаванняў, — пішуць яны ў сваім звароце і пералічваюць:

жорсткае стаўленне канваіраў са спецпадраздзяленняў КДБ, якія хаваюць свае твары пад маскамі,

шантаж і псіхалагічны ціск на падследных,

інфармацыйная блакада (многія родныя больш чым за 2 месяцы, атрымалі не больш за 2—3 лісты),

нізкая тэмпература ў камерах (каля 8—12 градусаў),

адсутнасць туалета ў многіх камерах».

Сваякі палітвязняў грунтуюцца на звестках, якія яны, імаверна, атрымалі ад людзей, выпушчаных пад хатні арышт ці падпіску пра нявыезд. Вось што яны пішуць:

«Працэдура вобшуку ў мужчынскіх камерах адбываецца самым зневажальным чынам: мужчын прымушаюць выносіць з камер усе рэчы ў спецыяльнае памяшканне, а пасля раздзявацца дагала.

У СІЗА на Валадарскага ў 8-мясцовых камерах ўтрымліваюцца па 15—16 чалавек, якія вымушаныя спаць па чарзе».

Яны пішуць і пра абмежаванне адвакацкай дапамогі: «Ні адзін са зняволеных СІЗА КДБ не меў магчымасці сустрэцца з адвакатам сам-насам. А з Мікалаем Статкевічам, Змітром Бандарэнкам, Сяргеем Марцалевым, Анатолем Лябедзькам і Паўлам Севярынцам адвакаты не могуць сустрэцца з 29 снежня».

Сваякі палітвязняў заклікаюць Еўропу дабівацца вызвалення палітвязняў.

**Абвінавачанні па справе аб «масавых непарадках»**

выстаўленыя 42 чалавекам, з іх 1 ужо асуджаны, чакаюць суду 29 чалавек пад вартай, 2 — пад хатнім арыштам пад аховай, 10 — пад падпіскай аб нявыездзе. Яшчэ 12 знаходзяцца ў статусе падазраваных, з іх 1 — пад вартай, 9 пад падпіскай аб нявыездзе, 2 — знаходзіцца па-за межамі краіны. Двум чалавекам выстаўлены абвінавачанні ў асабліва злосным хуліганстве.

# быць моцнымі і мужнымі»

**Апошні ліст Атрошчанкава перад судом**

Напярэдадні суда Дар'я Корсак, жонка палітзняволенага прэс-сакратара Андрэя Саннікава, атрымала ад яго ліст. Вось вытрымкі з яго:

«Вітаю, мілая Дарачка!

Сёння быў рады атрымаць ліст ад бацькоў і, вядома, тваё пісьмо. Наогул, сітуацыя з лістамі выяўна палепшала. Не ведаю, як мае лісты, але вашы я цяпер атрымліваю значна часцей. Зрэшты, не скажу, што я пішу шмат лістоў. Хутчэй, я пішу іх няшмат. Сама разумееш, хто жыве доўга, і ў іх ёсць на тое прычыны і падставы [маецца на ўвазе фраза «параноікі жывуць доўга» — заўв. Charter97.org]. Сёння наогул дзень насычаны падзеямі, як на нашы «пенсійныя» меркі: атрымаў перадачу, атрымаў таблеткі, якія ты мне пасылала раней, атрымаў тваё і бацькоўскія лісты і даведаўся пра тое, што прызначаная дата суда. (...) Дарка, гэта вельмі важна. Вы малайцы, асабліва ты. Уяўляю, як табе было цяжка ўвесь гэты час. Але трэба разумець, што вынік суда таксама не будзе такім, які ўсіх нас задаволіць. Іншымі словамі, трэба быць гатовымі да горшага. Хоць яснасці ў любым выпадку дадасца.

У сувязі з гэтым хачу папрасіць вас усіх быць моцнымі і мужнымі, ніякіх слёз і непрытомнасцяў, мер і, вядома, без усяляkіх выказванняў. На гэтым будзем лічыць практычную частку ліста завершанай.

Ну, а наогул, у мяне ўсё нармальна. Здаровы і добра ем. (...) Усіх вітай. Я насамрэч маю на ўвазе амаль усіх знаёмых, ну і сама ведаеш, каго асабліва. (...)

Добра, сканчаю ліст. 1-га пабачымся ...

Твой муж»


Прывітаньне, мамка, мамуля і татуля!
Ліст № 10
Вялікі дзякуй, што перадалі манікюрныя нажнічкі. Цяпер я ўжо практычна поўнасцю матэрыяльна забясьпечаны :) Па звычайных [illegible], мне пашанцуе і гэтых нажнічак можна зрабіць восеньню, што многае нас лістоў да вас дойдзе, і гэта добра

Почырк выдае ў Паўлу Севярынцу цвёрдага, арганізаванага і ўпэўненага ў сабе чалавека.


Дорогая мама!
Поздравляю тебя с днем рождения! Желаю побольше здоровья, бодрости, поменьше огорчений!
Береги себя, не волнуйся по пустякам.
У меня все нормально. Жив, здоров.
Целую крепко, люблю

Андрэй Саннікаў дасылае цёплыя лісты маме.




Алесь Кіркевіч і ў турме малюе родны горад.


Псіхалагічна я таксама ў норме, бо не зрабіў і не зраблю нічога, за што было б сорамна.
Так што перадай усім агульным знаёмым і людзям, што я [illegible], каб людзі дарэмна не хваляваліся за мяне.

Мікола Статкевіч: «Не зрабіў і не зраблю нічога, за што было б сорамна».


С нами Бог!
Живе Беларусь!
Эдуард 27.01.2011г. Э. Л[illegible]
[illegible]инская область г. Жодино
Письмо на одном листе, на двух страницах.

Эдуард Лобаў прыйшоў у апазіцыю пасля службы ў дэсанце, бо пабачыў, што яна робіць справядлівую справу.


Вітаю, Танюша! (6)
Сёньня сустрэўся з адвакатам. Вялізны дзякуй, што вы яго паднапружылі. Расстроіўся я толькі, што Насту не вызвалілі. Вельмі кепска.
І там адвакату распавёў аб некаторых допытах сваіх. Выдзь ім [illegible] і падумайце ці варта інфу гэтую даваць СМІ. Магчыма быць у агульных рысах. А можа для ўнутранага карыстання. Глядзіце самі. Галоўнае, каб Цэзар ведаў, што яму няма чым пагражаць. Няхай трымаецца мужна, як і належыць :)
У мяне ўсё добра. Толькі пошты няма амаль тыдзень ні ад каго. Адвакат кажа, што і мая не даходзіць да вас. Пэўна трымаюць, бо я пішу штодня па некалькі лістоў. Табе апошні ліст быў за 26-е. Гэты ўжо 6-ты. І, калі ласка, адкажы тэлеграмаю ці атрымала ты яго. Каб я ведаў ці дубляваць гэтую інфармацыю ў іншых лістах. Увогуле, калі там бывае што важнае — вызвалілі каго альбо арыштавалі і г.д. — дасылайце мне, калі ласка, па пару сказаў тэлеграмаю. Таксама маякні мне ці атрымоўвала ты мой ліст з парадамі па МФ.
Як там у вас справы? Чым займаецеся? Хто жывы там у нас і ці ў шэрагах гэтыя жывыя? Калі ёсць такая магчымасць, дасылайце мне якія раздрукоўкі са зводкамі з фронту :) А тое ж я ўвесь за вас хвалююся, а ад вас ні слыху, ні духу ;(

Дашкевіч шмат піша паплечнікам і кожны ліст сканчае цытатай з Бібліі.

# Міхалевіч: Мяне катавалі ў турме КДБ

## А ўмовай вызвалення была падпіска пра супрацоўніцтва з КДБ

**Шакуючыя факты расказаў на прэс-канферэнцыі 28 лютага экс-кандыдат у прэзідэнты Алесь Міхалевіч. Ён прызнаўся, што падвяргаўся катаванням у СІЗА КДБ. Таксама ён расказаў, што ўмовай вызвалення з СІЗА была падпіска аб супрацоўніцтве з КДБ.**

Алесь гаварыў цвёрда. Палітык ніводнага разу не пажартаваў, хаця звычайна без гэтага не праходзіць ніводнай прэс-канферэнцыі.

«СІЗА КДБ ператварыўся ў канцлагер у цэнтры Мінска», — з такіх словаў пачалася шараговая прэс-канферэнцыя Руху «За Свабоду», на якой нечакана з’явіўся экс-кандыдат у прэзідэнты і былы вязень «амерыканкі» Алесь Міхалевіч.

«Я павінен расказаць аб усім, павінен выканаць свой грамадзянскі абавязак, — працягваў Міхалевіч. — Адразу пасля затрымання мне ва ўльтыматыўнай форме было загадана выступіць па БТ з заявай, у якой я б асуджаў Плошчу. Калі я адмовіўся, мяне змясцілі ў камеру. А праз некалькі дзён пачаліся катаванні».

Міхалевіч расказаў, што асабліва жорсткія катаванні адбыліся з ім 10 студзеня: палітыку заводзілі рукі за спіну, надзявалі кайданкі, а потым падымалі рукі ўверх да хрусту. Пры гэтым патрабавалі неабходных паказанняў. Менавіта пасля такіх працэдур Алесь патэлефанаваў жонцы і папрасіў нікуды не ездзіць, не паднімаць хвалю салідарнасці («НН» №3).

«Аднак я ўдзячны Мілане, што яна зрабіла тое, што зрабіла», — кажа ён.

Алесь таксама перакананы, што падобныя здзекі прымяняліся і ў дачыненні да іншых вязняў КДБ: «Катаванні паўтараліся неаднаразова. Я думаю, што іншыя палітвязні таксама маглі стаць іх ахвярамі».

Праз два месяцы ламання Алеся вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе, аднак з умовай стаць «сексотам». «Мне далі на подпіс паперу, дзе я пагадзіўся супрацоўнічаць з КДБ. Я падпісаў яе і выйшаў на свабоду. Выйшаў для таго, каб усё гэта вам расказаць. Лічу сваю заяву публічнай адмовай ад супрацоўніцтва са спецслужбамі», — заявіў Міхалевіч.

Алесь Міхалевіч быў арыштаваны раніцай 20 снежня і з таго часу знаходзіўся ў турме следчага ізалятара КДБ, за невялікімі выняткамі (у СІЗА на Валадарскага). Ён быў выпушчаны вечарам 19 лютага. Ужо 20 лютага Алесь даў вялікае інтэрв’ю «Нашай Ніве», аднак у ім аб катаваннях не было ніводнага слова.

Пасля прэс-канферэнцыі 28 лютага А.Міхалевіч паведаміў журналістам «НН», што хацеў зрабіць заяву аб катаваннях ужо тады, аднак жонка Мілана перакапала яго пачакаць. Яна хацела пабыць з мужам хаця б тыдзень.

Ён не выключае, што яго могуць ізноў пасадзіць у турму, каб застрашыць іншых выпушчаных.

**Алесь Пілецкі**

# Заява Алеся Міхалевіча

**Прапануем вам поўны тэкст заявы Алеся Міхалевіча, якую ён накіроўвае ў Пракуратуру, а таксама спецдакладчыку ААН па праблеме катаванняў. У ёй ён падрабязна апісвае тое, што рабілі з ім у ізалятары КДБ.**

Нягледзячы на тое, што я, Алесь Міхалевіч, экс-кандыдат у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, звязаны падпіскай аб неразгалошванні таямніцы следства, я лічу, што мушу распавесці пра тое, што адбываецца з затрыманымі вязнямі ў СІЗА КДБ. Галоўная «таямніца следства» — гэта метады, якія ўжываюцца для таго, каб змусіць людзей падпісаць вымаганыя ад іх паказанні і дэкларацыі. Я лічу, што супрацьзаконныя дзеянні, якія парушаюць не толькі беларускае заканадаўства, але і міжнародныя дамовы, такія як Міжнародная канвенцыя супраць катаванняў, нельга прыкрываць «таямніцай следства».

Як вам вядома, я быў адным з сямі кандыдатаў, затрыманых спецслужбамі пасля падзеяў 19 снежня, і адным з некалькіх дзясяткаў дэмакратычных актывістаў, якія патрапілі пад утрыманне пад вартай у СІЗА КДБ.

Я адмовіўся зачытаць для ТБ заяву асуджэння іншых кандыдатаў.

Выклікі да супрацоўнікаў КДБ пачаліся з першых гадзін затрымання, вяліся без адваката, пратакола, з парушэннем усіх працэсуальных нормаў. Прыблізна з 26 снежня ў адносінах да мяне пачалі ўжывацца дзеянні, якія з’яўляюцца катаваннем.

Пры выхадзе з СІЗА КДБ у мяне канфіскавалі дзённік, які я там вёў штодня, але тое, што адбылося, немагчыма сцерці з памяці. Асобныя факты пералічаныя ў дакуменце ніжэй.

Па ўрыўках фразаў, пачутых з-за дзвярэй, я зразумеў, што падобныя дзеянні прарабляюць і з іншымі актывістамі, якія адмаўляюцца даваць вымаганыя ад іх паказанні. Адвакатаў не дапускаюць толькі таму, каб зняволеныя не маглі паведаміць пра факты катаванняў. Я непакоюся пра лёс усіх вязняў, асабліва тых, якія не мелі сустрэчаў з адвакатамі з канца мінулага года. Я разумеў, што тое, што з намі робяць, скіравана на ламанне апазіцыйных лідараў. Для мяне выбар быў паміж двума варыянтамі: альбо застацца пад вартай да суда, альбо зрабіць выгляд, што я згодны выконваць патрабаванні супрацоўнікаў КДБ.

Умовай майго вызвалення стала падпісанне дамовы аб супрацоўніцтве.

Я свядома пайшоў на гэты крок, і гэта было прадыктавана не ціскам і катаваннем, але жаданнем данесці інфармацыю пра тое, што адбываецца са зняволенымі.

Я адкрыта заяўляю, што ніколі не быў і не буду агентам Камітэта дзяржаўнай бяспекі!

Сваёй публічнай заявай я здымаю з сябе абавязак, які быў пазначаны ў паперы.

Я разумею, што ўжо да канца гэтага дня я магу патрапіць назад у СІЗА і што стаўленне да мяне на гэты раз будзе непамерна больш жорсткім. Але я хачу зрабіць усё магчымае, каб выратаваць тых, хто яшчэ застаецца за кратамі, каб аблегчыць лёс гэтых людзей, каб спыніць катаванніі. Я хачу, каб у іх была магчымасць выйсці на свабоду не зламанымі, не стаўшы на шлях супрацоўніцтва, а перадусім проста жывымі.

У сваім выступе я адмыслова не раскрываю імёнаў супрацоўнікаў і іншых акалічнасцяў следства. Але ўсе незаконныя дзеянні ў адносінах да мяне, разам з указаннем канкрэтных фактаў, я выклаў у заяве, якую накіроўваю ў Пракуратуру, а таксама ў форме, якая будзе накіравана спецдакладчыку ААН па праблеме катаванняў.

Лічу, што пракуратура мусіць правесці праверку і спыніць зверствы.

Разам з тым, я зрабіў падрабязнае апісанне ўсяго, што са мной адбывалася, і накіраваў на захаванне ў надзейнае месца.

Гэтыя сведчанні з’явяцца ў публічнай прасторы ў выпадку, калі мяне зноў затрымаюць і змесцяць пад варту.

Я зраблю ўсё магчымае, каб знік канцлагер у цэнтры Мінска.

### Спосабы здзекаў. «Амерыканка»

1. 10 студзеня «ахоўнікі ахоўнікаў» — людзі ў чорных масках без апазнавальных знакаў — вывалаклі з камеры, сілай пачапілі кайданкі ззаду, паднялі іх так, каб апусціць тварам да бетоннай падлогі. Спусцілі па вінтавой лесвіцы ў падвальнае памяшканне. Сказалі, выварочваючы рукі за спіной максімальна высока ўверх, пакуль не пачалі хрусцець суставы, што я павінен выконваць усё, што ад мяне патрабуюць.

Трымалі рукі падвешанымі за кайданкі доўга і падымалі вышэй і вышэй, пакуль не сказаў, што буду выконваць усё. Супрацоўнікаў ізалятара пры гэтым не было нават на калідорах.

2. Сістэматычна — па 5—6 разоў на суткі — выводзілі «на обыск» — на асабісты надгляд. Падчас гэтага ставілі голымі «на расцяжку», падсякаючы ногі амаль да поўнага шпагату. Калі падсякалі ногі, адчувалася, як ірвуцца звязкі. Ставілі голымі на адлегласці каля метра ад сцяны, прымушаючы абаперці рукі на сцяну, у памяшканні, дзе тэмпература не перавышала 10 градусаў. Трымалі так па 40 хвілін, пакуль не ацякалі рукі. Некалькі разоў патрабавалі, каб рукі клаў на сцяну далонямі навонкі і так стаяў.

3. Падчас так званага асабістага надгляду ўсіх выганялі ў халоднае памяшканне распранутымі дагала і прымушалі выконваць рэзкія прысяданні па некалькі дзясяткаў разоў. Вязням са слабейшым здароўем падчас гэтага рабілася кепска, але людзей у масках гэта не спыняла.

4. На ноч не выключалі дзённае святло, патрабавалі класціся тварам пад лямпу, забаранялі накрываць твар хусткай, «чтоб відеть ліцо». У выніку пачаў псавацца зрок. Загадвалі спаць, павярнуўшыся тварам да «вочка» ў дзвярах, за гэтым сачылі бесперапынна — калі ты паварочваўся ў сне, заходзілі і будзілі, прымушаючы легчы, як загадана. Фактычна гэта вылівалася ў катаванне адсутнасцю сну.

5. Фарбавалі падлогу ў камеры фарбай на ацэтоне і патрабавалі знаходзіцца ў памяшканні, якое фактычна не праветрывалася, да поўнага высыхання фарбы. Такое ўздзеянне доўжылася болей за сорак гадзінаў запар.

6. У саміх камерах тэмпература не перавышала 10 градусаў, ацяплення практычна не было. На сцяне была чорная плесня, якая разрасталася, калі зачынялі фортку.

Паведамілі, што мая камера павінна хадзіць да доктара толькі ў чацвяргі (замест прапісанай у правілах магчымасці наведваць па запатрабаванні). Падчас вымярэння ціску доктар забараняў вязню глядзець на апарат, каб той, каму мераюць ціск, не бачыў паказанні. Запісваў гісторыю хваробы ў журнал, засланяючы яго паперкай. Выганялі на прагулку ў мароз усіх, нават тых, хто запісаўся да доктара, не кажучы пра тых, у каго не было цёплых рэчаў.

Не пускалі адваката, хаця вольныя памяшканні заўсёды былі — мы бачылі пустыя кабінеты па дарозе на ўласныя допыты. (Ніхто з нас не атрымаў магчымасці сустрэцца з адвакатам сам-насам. Гэта было зроблена адмыслова, каб пазбавіць магчымасці распавесці пра катаванні.)

3 камер забралі «Правілы ўнутранага распарадку», бо адміністрацыя парушала гэты дакумент у дзясятках пунктаў. «Людзі ў масках» папярэдзілі, што ў выпадку скаргаў ізноў «падвесяць за кайданкі». У перыяд актыўнага ціску мяне выводзілі на так званы вобшук па 8 разоў за дзень.

Грамадзянін Афганістана, які сядзеў у адной камеры са мной і меў досвед знаходжання ў палоне ў талібаў, сказаў, што там няма такой мадэрнізацыі (паказваючы на пасцель і нары), але абыходзяцца з людзьмі там нашмат лепш.

### «Валадарка», куды мяне перавялі для таго, каб спужаць (так сказалі ахоўнікі ў масках у «амерыканцы»)

У пракуранай камеры на 8 спальных месцаў 15 чалавек. Спалі па чарзе. Калі змена спаць выпадала ўдзень, то даводзілася выбіраць паміж сном і прагулкай. Падчас вобшуку выводзілі на гадзіну ўсіх 15 чалавек у карцэр плошчай 5 квадратаў, дзе некаторыя гублялі прытомнасць. З маім з’яўленнем такія вобшукі пачалі праводзіць кожны дзень, каб настроіць камеру супраць мяне.



Мілана Міхалевіч штодзень насіла перадачы для мужа ў турму.

АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ

### Жонка прэзідэнта Польшчы затэлефанавала Мілане Міхалевіч: Перакажыце мужу шанаванне

«Жонка прэзідэнта Польшчы Браніслава Камароўскага прасіла мяне пераказаць мужу яе вялізнае шанаванне, — распавяла «Нашай Ніве» Мілана Міхалевіч, жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты. — Яна сказала, што разумее, у якой сітуацыі мы цяпер знаходзімся, бо сама была ў такой сітуацыі 30 гадоў таму».

Цяперашні прэзідэнт Польшчы таксама быў зняволены ў часе рэпрэсій камуністычнага ўрада супраць апазіцыі.

Ганна Камароўская таксама сказала, што «не варта страчваць надзею».

**МБ**

# Алкаеў: Вярбоўка Міхалевіча не азначае вярбоўкі астатніх выпушчаных

«Не веру ў «глупства», што КДБ дапусціў такую недаравальную прамашку, як вярбоўка А.Міхалевіча, — піша ён. — Упэўнены, што супрацоўнікі, якія працавалі з экс-кандыдатам у прэзідэнты, прадугледзелі магчымасць «раскаяння» наваспечанага агента. Падобны паварот падзей абавязаны прадумаць нават пачатковец-аператыўнік, які вярбуе кішэннага злодзея. Таму вярбоўка лічыцца завершанай толькі тады, калі ў вербаванага выключаюцца ўсе шанцы «даць» зваротны ход. Лічу, што менавіта фактар наступнага «раскаяння» і быў галоўнай мэтай «вярбоўкі». Прызнанні Міхалевіча паставілі пад сумнеў абставіны вызвалення з-пад варты астатніх вязняў «амерыканкі». Зараз выходзіць, што і яны павінны будуць растлумачыць умовы свайго вызвалення. Але пасля прызнанняў Міхалевіча любыя іх тлумачэнні будуць выглядаць відавочна запозненымі і няшчырымі. А гэта абавязкова адаб’ецца на іх рэпутацыі».

# КДБ: Гэта не адпавядае рэчаіснасці

Заява экс-кандыдата ў прэзідэнты Алеся Міхалевіча аб катаваннях у СІЗА не адпавядае рэчаіснасці, і дадзеным выказванням нельга верыць, заявіў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў (ЦГС) КДБ Аляксандр Антановіч.

«Па-першае, гэта не адпавядае рэчаіснасці. Па-другое, таму, што, мякка кажучы, вывальваецца ў інтэрнэце, верыць нельга», — адзначыў кіраўнік ЦГС. «Такія выбрыкі — гэта нешта несусветнае», — падкрэсліў Антановіч, не змогшы адказаць на пытанне, ці можа Міхалевіч быць прыцягнуты да адказнасці за «паклёп».

**СГ**



**Алесь Міхалевіч**
адным з першых абвясціў аб сваім намеры балатавацца ў прэзідэнты на выбарах-2010. Тады гэта было ўспрынята хутчэй як заяўка на будучыню, чым як сапраўднае змаганне за перамогу.
Міхалевіч спецыфічна пазіцыянаваў сябе ў часе выбарчай кампаніі — як трэцюю сілу паміж уладамі і апазіцыяй. Ён па многіх пазіцыях хваліў Аляксандра Лукашэнку і падхапіў выбарчы лозунг апошняга «разам мы Беларусь». На Плошчу сваіх прыхільнікаў ён заклікаў у апошні момант, дый тое выключна праз інтэрнэт.
Нягледзячы на ўсё гэта раніцай 20 снежня яго арыштавалі і пратрымалі за кратамі два месяцы. Сям'я Алеся перажыла сем ператрусаў, а жонка Мілана была пазбаўленая права выязджаць за межы краіны, калі не запрасілі расказаць аб справе мужа ў польскім Сойме.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# Міхалевічу затэлефанаваў міністр замежных спраў Чэхіі

Размова адбылася ў другой палове дня ў панядзелак.

Як паведаміў «Нашай Ніве» экс-кандыдат у прэзідэнты, Карал Шварцэнберг выказваў яму сваю падтрымку. Кіраўнік чэшскай дыпламатыі таксама пытаўся, што Еўрасаюз можа зрабіць для беларускіх палітвязняў у гэтай сітуацыі.

Міхалевіч папрасіў Шварцэнберга паставіць пытанне аб катаваннях у Беларусі перад упаўнаважаным ААН па правах чалавека. Ён таксама прапанаваў дабівацца доступу прадстаўнікоў адпаведных міжнародных структураў да тых, хто сядзіць. І заклікаў распаўсюдзіць інфармацыю пра катаванні палітвязняў у Беларусі ва ўсім свеце.

Гутарка была працяглай.

**Мікола Бугай**

# Паганяйла: За катаванні павінна быць пакаранне

Заява Алеся Міхалевіча, зробленая 28 лютага, у якой ён расказаў аб катаваннях, што прымяняліся да яго падчас утрымання ў СІЗА КДБ, выклікала вялікі розгалас. «Наша Ніва» звярнулася да юрыста Гары Паганяйлы, каб даведацца, якія вынікі для Алеся Міхалевіча можа мець падобная заява.

**Гары Паганяйла:** Для пачатку Алесь Міхалевіч мусіць юрыдычна аформіць свае прэтэнзіі да супрацоўнікаў праваахоўных органаў, якія падвяргалі яго катаванням. Напісаць заяву ў адпаведныя органы, пракуратуру. Гэта абавязкова.

Іншая справа, што нашы органы, пракуратура часам робяць выгляд, што нічога падобнага не адбываецца. Як праваабаронца магу сказаць, што гэта не першы выпадак, калі былыя вязні расказваюць пра катаванні.

**«НН»: Справа Алеся Міхалевіча можа мець міжнародны рэзананс?**

**ГП:** Так. Існуюць міжнародныя дамовы, паводле якіх катаванні прызнаныя цяжкім злачынствам, і рэакцыя будзе.

**«НН»: Ці можа заява Міхалевіча быць ацэненая як раскрыццё таямніцы следства? Якія ўвогуле наступствы для яго асабіста можа мець уся гэтая справа?**

**ГП:** Не. Гэта ні ў якім разе не парушэнне таямніцы следства. Гэта важная грамадская справа, публічная. Катаванні забароненыя, і за іх павінна быць пакаранне. Таму юрыдычна заява Міхалевіча не з'яўляецца незаконнай.

Аднак экс-кандыдата зараз могуць абвінаваціць у тым, што ён схлусіў, узвёў паклёп на органы КДБ...

**Алесь Пілецкі**

## Палажанка: Да мяне нічога такога не выкарыстоўвалася

«Катаванняў і заяваў [падпіскі аб супрацоўніцтве з КДБ у дачыненні да мяне] не было. Да жанчын было іншае стаўленне», — пракаментавала актывістка Маладога Фронту Наста Палажанка прызнанне Алеся Міхалевіча.

Яна кажа, што жанчыны ў выпадку якога-небудзь уздзеяння ўздымалі крык, хоць гэта і забаранялася ўнутранымі правіламі. Таму да іх і не выкарыстоўвалі фізічнае катаванне.

Наста фактам катавання лічыць адсутнасць інфармацыі, сустрэч з адвакатамі. «Але гэта нішто ў параўнанні з тым, што перажыў Алесь».

Наста Палажанка 17 лютага вызвалілася з СІЗА КДБ, дзе правяла два месяцы. Яна з'яўляецца абвінавачанай па справе аб масавых беспарадках 19 снежня.

**КМ**

## Наталля Радзіна: «Мы чулі трэск»

Журналістка сайта Charter97.org Наталля Радзіна, якая пасля выхаду з турмы КДБ жыве ў Кобрыне пад падпіскай аб нявыездзе, пракаментавала заяву Алеся Міхалевіча пра катаванні ў турме КДБ («амерыканцы»). Паводле Наталлі, з жанчынамі ахоўнікі абыходзіліся інакш: ім не рабілі «расцяжак», не было раптоўных ператрусаў, жанчын-вязняў не бралі ў кайданкі і не выстаўлялі на холад голымі. Але, расказвае Радзіна, «ужываліся пагрозы, у тым ліку такія, што «падумай, бо ніколі не будзеш мець дзяцей».

Радзіна мяркуе, ёй дапамагло тое, што падчас допыту з удзелам адваката яна заявіла, што мае намер заставацца незалежнай журналісткай.

**Паводле радыё «Свабода»**

## Кастусёў: «Ні прапаноў, ні пагроз, нават кепскага слова на мой адрас не прагучала»

Іншы экс-кандыдат на прэзідэнта Рыгор Кастусёў не прайшоў праз тое пекла, у якое трапіў Міхалевіч.

«Са мной абыходзіліся надзіва прыстойна. Казалі: «Калі ласка, выйдзіце з машыны, калі ласка, прысядзьце, калі ласка, праходзьце». У першую ж ноч пасля затрымання я адмовіўся ісці на допыт без адваката. І ў КДБ не настойвалі, адзінае — сказалі падпісаць паперу, што без адваката адмаўляюся адказваць на пытанні».

**КМ**

## Дзмітрыеў: сёння не час рабіць гучныя заявы

Былы кіраўнік выбарчага штаба Уладзіміра Някляева пракаментаваў заяву Міхалевіча.

«Вы можаце паглядзець відэа [у якім Дзмітрыеў хваліць дзеянні міліцыі 19 снежня, яго паказвалі на БТ і АНТ], на якое цяпер любяць спасылацца. Там ёсць адказы шмат на што. Але рабіць сёння заявы, як сп. Міхалевіч, мы вырашылі камандай, гэта і маё ўласнае рашэнне, яшчэ не час.

Ёсць сапраўдная пагроза, што гэтыя заявы прывядуць да пагаршэння стану людзей, якія знаходзяцца за кратамі, ці да вяртання Някляева ў СІЗА КДБ, нядопуску да яго дактароў. Для нас гэта пакуль непрымальна. Таму рабіць гучных заяў мы цяпер не будзем. Прыйдзе час, будзем прымаць іншае рашэнне».

**КМ**

## Рымашэўскі заявіў, што не даваў падпіскі аб супрацоўніцтве з КДБ

Віталь Рымашэўскі заявіў, што аб абставінах свайго вызвалення ён адразу сказаў праўду. Маўляў, ён напісаў тлумачальную запіску на імя Лукашэнкі, пасля чаго і выйшаў на свабоду. А ніякіх падпісак пра супрацоўніцтва з КДБ не даваў.

Ён лічыць, што да кожнага вязня выкарыстоўваюцца розныя падыходы. І адзначыў, што ў выпадку непрымальных для яго ўмоў вызвалення ён бы не пайшоў на іх.

**КМ**

# За злачынствы — падвышэнне па службе

**У Віцебску следчыя сілай змушалі старшакласнікаў Логінава і Напаюка ўзяць на сябе чужое злачынства. Яны вытрывалі нялюдскія здзекі, нават пасадку ў псіхбальніцу. У выніку Вярхоўны Суд апраўдаў іх. Піша бацька аднаго са школьнікаў.**



PHOTO.BYMEDIA.NET

Прайшло дваццаць месяцаў з таго моманту, калі ў Віцебску ля абласной бальніцы быў знойдзены труп грамадзяніна Сідарава з мноствам колата-рэзаных ран, удараў і пераломаў.

У гэтай цёмнай справе з першага дня праглядалася замова вышэйстаячых чыноўнікаў на тэрміновае раскрыццё гэтага злачынства любой цаной. Ахвярай гэтай замовы сталі трое дзяцей (усе з няпоўных сем'яў): А. Логінаў, А. Аўчароў, А. Напаюк. Затым з А. Аўчарова было знятае абвінавачанне.

З моманту іх затрымання былі суцэльныя грубыя парушэнні закона. Дзеці былі затрыманыя на падставе паказанняў 15-гадовай двойчы судзімай А. Сулімавай, якая напярэдадні таксама была затрыманая за крадзеж. Тут і быў разыграны спектакль. Як у фільмах пра міліцыю. А. Сулімавай абяцаюць не прыцягваць яе да адказнасці, калі яна дасць ілжывыя паказанні супраць дзяцей.

## Галоўная сведка была «на кручку»

З прысуду Магілёўскага абласнога суда: «З наяўнага ў матэрыялах дадзенай крымінальнай справы хадайніцтва ад 15 верасня 2009 года за № 4/5346 (а.с. 171) бачна, што ЧВАД начальніка Першамайскага РАУС г. Віцебска Сарокін С.А. паведамляе на імя старшыні суда Першамайскага раёна г. Віцебска, што ў цяперашні момант Сулімава А.А. з'яўляецца асноўным сведкам па крымінальнай справе па факце забойства Сідарава Д.А. і актыўна спрыяе расследаванню. У сувязі з вышэйпададзеным Першамайскі РАУС г. Віцебска «хадайнічае перад судом улічыць факт судзеяння Сулімавай органам унутраных спраў пры расследаванні асабліва цяжкага злачынства пры вынясенні прысуду».

Прысудам суда Першамайскага раёна г. Віцебска ад 30 верасня 2009 Сулімава А.А. на падставе ч.1 арт. 205 КК з ужываннем арт. 77 КК была асуджаная на год і 6 месяцаў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на год. Пры гэтым на Сулімаву А.А. былі ўскладзеныя абавязкі, кантроль за выкананнем якіх Сулімавай А.А. у сілу арт.177 УВК ускладзеныя на крымінальна-выканаўчую інспекцыю па месцы яе жыхарства, гэта значыць на названую інспекцыю Першамайскага РАУС г. Віцебска.

Гэта значыць, што паказанні па справе аб забойстве Сідарава Д.А. непаўнагадовая сведка Сулімава А.А. пачала даваць толькі пасля таго, як сама трапіла ў поле зроку праваахоўных органаў як падазраваная ў крадзяжы мабільнага тэлефона і аж да заканчэння часу адтэрміноўкі пакарання Сулімава А.А. знаходзілася ў залежным ад супрацоўнікаў Першамайскага РАУС г. Віцебска становішчы».

## У камеру падсаджвалі адпетых зэкаў

У сваю чаргу, работнікі праваахоўных органаў Першамайскага РАУС, кіраваныя крыважэрным маёрам Г. Цітовым (якому напляваць на ўсё — бо ён без пяці хвілін пенсіянер), ужываюць увесь арсенал катаванняў, збіванняў і прыніжэнняў з мэтай выбіць прызнальныя паказанні ў дзяцей.

Ім удаецца выбіць гэтыя паказанні ад А. Аўчарова і А. Напаюка, а вось А. Логінаў выявіўся моцным арэшкам, які ні разу на працягу ўсяго папярэдняга следства (а яно доўжылася амаль год) не абгаварыў сваіх сяброў і не ўзяў на сябе віну за злачынства.

Кіраўнікі следчай брыгады Ю. Шчацько і А. Таўтын рабілі ўсё, каб зламаць 16-гадовага хлапчука. Спачатку камеру ў СІЗА Віцебска, а затым Мінска па некалькі разоў на дзень наведвалі аператыўнікі, затым у камеру падсадзілі двух адпетых рэцыдывістаў і забойцаў. Мэта была адна — прымусіць А. Логінава даць прызнальныя паказанні.

## На месяц у Навінкі

Таксама Шчацько зацягваў следства. За першыя тры месяцы (66 рабочых дзён) А. Логінаў быў дапытаны следчым Шчацько адзін раз. Наступныя два месяцы (студзень—люты 2010) не было ніводнага допыту. На пытанне маці А. Логінава Наталлі Віктараўны, чаму зацягваецца следства, Шчацько адказаў: «Я думаў, што за гэты час Логінаў дасць іншыя паказанні». А паколькі гэтага не здарылася, следчы незаконна накіроўвае А. Логінава на стацыянарнае абследаванне ў лякарню «Навінкі». (Накіраванне на стацыянарнае лячэнне (абследаванне), паводле пастановы Пленума (Прэзідыума) Вярхоўнага Суда РБ, непаўналетніх дзяцей ажыццяўляецца ў выключных выпадках: калі дзіця знаходзіцца на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры або калі ёсць сумневы ў яго псіхічным і разумовым развіцці).

Для дасягнення злачыннай мэты следчы Шчацько зацягвае адпраўку дакументаў на А. Логінава ў Навінкі. Асабістая справа была атрыманая дактарамі праз 22 каляндарныя дні, а выпіска з ПНД г. Віцебска — яшчэ праз тыдзень. Такім чынам, 29 каляндарных дзён А. Логінаў знаходзіўся ў «санаторыі Навінкі» без дакументаў, у цесным кантакце з сапраўднымі вар'ятамі і забойцамі. (Пасля Навінак, праз дзень, А. Логінаў быў накіраваны следчым Шчацько на абследаванне на паліграфе, што звычайна робіцца ў першыя дні або тыдні расследавання, а не праз восем месяцаў, ды яшчэ пасля Навінак, калі дзіця знаходзілася ў цяжкім фізічным і псіхалагічным стане).

Я як бацька ганаруся сынам, які змог вытрываць такое выпрабаванне і не зламаўся. Чытаючы лісты з СІЗА, я здзіўляўся яго стойкасці — усе яны пачыналіся і завяршаліся аднымі і тымі ж словамі: «Тата, не хвалюйся, усё будзе добра, беражы здароўе, гэта для цябе галоўнае...» Ні ў адным з дзясяткаў лістоў Аляксандра я не ўбачыў адчаю. Ён, наадварот, заўсёды падтрымліваў нас, бацькоў, знаходзячыся ў асяроддзі адпетых зэкаў, забойцаў і рэцыдывістаў. Толькі аднойчы, вярнуўўшыся з «санаторыя Навінкі», ён напісаў: «Тата, Навінкі — гэта жудасна». Я не крыважэрны чалавек, але вельмі хацеў бы, каб галоўных фігурантаў гэтай бруднай справы — следчых Ю. Шчацько і А. Таўтына — накіравалі хоць бы на тыдзень у «санаторый Навінкі», каб яны адчулі ўсе прыемнасці «адпачынку» ў гэтай установе. А яшчэ хацелася б, каб іх павадзілі па кабінетах і лабараторыях ахоўнікі на ланцужку, як шчанюкоў, што нашкодзілі.

## Адкуль у следчага столькі нянавісці?

На пытанне, як гэтую акалічнасць расцэньвае намеснік галоўнага эксперта РБ Кузьмічоў, ён адказаў: «Гэта цяжкае злачынства, бо калі чалавек накіроўваецца на лячэнне нават у санаторый ці дом адпачынку, ён абавязаны мець медыцынскую карту».

Узнікае пытанне, адкуль у такога маладога следчага Шчацько столькі нянавісці, жорсткасці ў дачыненні да простых людзей і нават дзяцей. Хіба могуць такія людзі працаваць у органах пракуратуры?

Нельга не заўважыць, што за ўвесь час папярэдняга следства (12 месяцаў), мне, бацьку, не было дазволена ніводнага спаткання з сынам.

Калі б вы ведалі, колькі пустых пастаноў было прынята следчым Шчацько, колькі было ў кожным радку гэтай «перапіскі» нянавісці і злосці, да нас, бацькоў А. Логінава, якога не змог следчы Ю. Шчацько зламаць ні маральна, ні псіхалагічна, ні фізічна.

Каля сотні скаргаў і хадайніцтваў было напісана намі, бацькамі трох непаўналетніх дзяцей, Логінава А., Напаюка А., Аўчарова А., і ні на адно не было атрымана аргументаванага, аб'ектыўнага адказу.

## На прыёме ў Васілевіча

У Генеральнай пракуратуры была створаная цэлая брыгада па адпісках на нашы скаргі і заявы. Узначаліў яе намеснік генеральнага пракурора Конан (дарэчы, таксама віцяблянін, як і Шчацько). Мы, бацькі Логінава, Аўчарова, Напаюка, двойчы спрабавалі трапіць на прыём да В. Конана. На першую нашу заяву атрымалі няўцямны адказ, з якога зразумелі, што з намі не хочуць сустракацца, а на другую заяву мы наогул адказу не атрымалі. Дарэчы, як і яшчэ на некалькі нашых скаргаў і хадайніцтваў на імя Генпракурора.

Адпіскамі на нашы скаргі, хадайніцтвы і заявы займаліся высокапастаўленыя, высокааплатныя работнікі Генпракуратуры Конан У.А., Казачэнка А.Г., Зуй І.К., Сяўрук І.Г., Шчацько Ю.А., Кузьміч В. Л., Крывашчокі В.М., Старасціна Н.І., а таксама Першамайскай і абласной пракуратуры горада Віцебска: Сідаровіч А.В., Таўтын А.П., Цывінскі А.В., Чадзюк А.В., Несцярэнка А.М., Ягораў В.У., Дыско Г.І., Забаўскі В.А., Макяёнак А.В. Калі прааналізаваць усе адказы, ствараецца ўражанне, што ўсе яны напісаныя адной асобай пад дыктоўку і набраныя на адным і тым жа камп'ютары, з той розніцай, што мяняліся месцамі абзацы і подпісы. Ніхто не ўнікаў у справу і не чытаў яе. Усе бралі «інтэрв'ю» ў Шчацько і рапартавалі: «Усё законна, аб'ектыўна і з улікам крымінальна-працэсуальнага кодэкса».

У анархіі, якая творыцца ў Генеральнай пракуратуры, мы пераканаліся, пабываўшы на асабістым прыёме ў генеральнага пракурора Р. Васілевіча. Амаль гадзіну доўжылася гутарка з генеральным пракурорам, у якога мы прасілі аднаго: спыніць гэтае злачынства і валакіту з боку следчай групы і хутчэй перадаць справу ў суд.

Аднак пра нас і нашы скаргі забыліся, і мы не атрымалі ніводнага адказу за подпісам генпракурора. Відаць, Рыгор Аляксеевіч палічыў нас за людзей другога або трэцяга гатунку, дык навошта ж яму губляць час на дробязі.

Дробяззю гэтае злачынства палічыў і куратар справы У. Конан, які нават не прачытаў ніводнага тома гэтай бруднай справы і ў той жа дзень накіраваў яе ў Вярхоўны Суд.

Вестка аб тым, што рашэннем Вярхоўнага Суда разгляд нашай справы накіраваны ў Магілёўскі абласны суд, была для нас, бацькоў абвінавачаных дзяцей, шокам. Мы пісалі лісты з просьбай перанесці пасяджэнне ў Віцебск, хай нават гэта будуць выязныя пасяджэнні Магілёўскага суда. За 12 месяцаў мы, бацькі, былі прыгнечаныя маральна, фізічна і матэрыяльна. Ведаючы аб невінаватасці нашых дзяцей, мы не мелі права даваць ім падставу для панікі, мы былі абавязаныя падтрымліваць іх ва ўсім. Як ні было цяжка, двойчы ў тыдзень мы вазілі перадачы ў СІЗА Мінска, нанялі мінскіх адвакатаў. І хоць нікому з бацькоў не далі ніводнага спаткання, мы зрабілі ўсё, каб дзеці ведалі, што мы не сумняваемся ў іх невінаватасці і будзем змагацца за іх да канца.

## Нуль працэнтаў доказаў пры стапрацэнтным алібі

На жаль, а можа быць, і на шчасце, нашы просьбы не былі пачутыя Вярхоўным Судом, і 22 чэрвеня 2010 адбылося першае пасяджэнне Магілёўскага абласнога суда.

На ім прысутнічала каля 40 чалавек з боку абвінавачаных дзяцей: аднакласнікі, сябры, класны кіраўнік і настаўнікі гімназіі, сваякі. Цяжка было бачыць, як невінаватых уводзілі ў залу ў кайданках, як злачынцаў, і як яны разгублена глядзелі ў вочы ўсім знаёмым праз краты. Адно нас радавала: нашы дзеці жывыя і хоць прыгнечаныя, але не зламаныя.

Нельга не сказаць словы вялізнай падзякі дырэктару 7-й гімназіі, у якой вучыліся Логінаў і Напаюк, Вользе Максімовіч, завучу Ларысе Вавільчанкавай, намесніку дырэктара па выхаваўчай працы Лосевай Ірыне, сацыяльнаму педагогу Факіной Ірыне, класнаму кіраўніку Панасіку Георгію і іншым за іх прынцыповасць і прафесіяналізм, якія яны праявілі падчас папярэдняга следства і судовага працэсу. Бо толькі ім, ды і асобным вучням гімназіі вядома, які прэсінг перажылі за 17 кашмарных месяцаў з боку работнікаў Першамайскага РАУС і пракуратуры. Нізкі паклон усім вам за падтрымку нашых дзяцей, бо, упэўненыя ў невінаватасці сваіх выхаванцаў, яны неаднаразова звярталіся ва ўсе інстанцыі з просьбай вызваліць дзяцей, даць ім магчымасць вучыцца. Але на жаль, як і мы, бацькі, педагагічны калектыў таксама не быў пачуты.

Таксама хочацца выказаць словы шчырай падзякі нашым адвакатам Але Лізура і Алене Пугачовай, праваабаронцу Паўлу Левінаву, які быў на ўсіх судовых пасяджэннях.

За пяць месяцаў суда было заслухана больш за 70 сведкаў, і чым бліжэйшы быў фінал, тым больш відавочным рабілася тое, што справа няўмела сфабрыкаваная праваахоўнымі органамі з удзелам Генеральнай пракуратуры.

Нуль працэнтаў доказаў вінаватасці дзяцей пры стапрацэнтным іх алібі — такі вынік 27 пасяджэнняў Магілёўскай судовай калегіі пад старшыняваннем суддзі Яфрэмава А.П. Адгэтуль і адпаведны прысуд: «Вызваліць неадкладна ў зале суда А. Логінава і А. Напаюка за недаказанасцю іх удзелу ў здзяйсненні гэтага злачынства».

**З аповеду Аляксандра Логінава:**

«Завялі ў кабінет № 19 (там ёсць шторы), было пяць чалавек, зачынілі дзверы на ключ (або зашчапку), спачатку паклалі на падлогу, адзін з іх дастаў пісталет, прыставіў да лба, засунулі пісталет у рот, крычалі, каб прызнаваўся. Потым паднялі з падлогі, паклалі на стол жыватом уніз, адзін узяў адкрутку і пачаў круціць перад вачыма са словамі: «Зараз засуну, куды трэба». Затым пасадзілі на крэсла, сталі біць па галаве далонямі. Усё гэта суправаджалася патрабаваннямі прызнацца… Пасля гэтага пратрымалі ў боксе каля 2 гадзін, затым у кабінеце кагосьці з кіраўніцтва было сказана: «Зараз завязём на Дзвіну, возьмем за ногі і патрымаем у вадзе».

### Следчая група падтасоўвала

Сёння, успамінаючы той дзень, 29 лістапада 2010 года, калі быў вынесены апраўдальны вердыкт, немагчыма не задаць пытанне боку абвінавачання, у прыватнасці, пракурору Магілёўскай абласной пракуратуры А. Іглікавай. Як Вы маглі прасіць для невінаватых дзяцей 14 гадоў пазбаўлення волі, Вы ж былі на ўсіх пасяджэннях суда, дзе бокам абвінавачання не было прадстаўлена ніводнага наўпростага і нават ускоснага доказу, ні матыву, ні інструмента, ні экспертызы забойства? А было, пачынаючы з моманту затрымання і да апошняга дня папярэдняга следства, грубае парушэнне закона з боку Вашых калегаў — Сідаровіча, Таўтына, Шчацько, Конана, Казачэнкі, Цывінскага і іншых. Як Вы, жанчына, пайшлі на ўгоду са сваім сумленнем, няўжо ў Вас няма сваіх дзяцей?

Сёння ўжо стала фактам, што следчая група на чале з Ю. Шчацько займалася падтасоўкай фактаў, часу і тэлефонных размоваў, выкарыстоўваючы ў сваіх інтарэсах паказанні віцебскіх экспертаў, вынікі якіх былі абвергнутыя паўторнымі экспертызамі ГМСЭ Мінска.

Так, у першай пастанове аб арышце дзяцей быў паказаны час здзяйснення забойства 13.00, у наступных пастановах — ад 14.00 да 16.00, ад 15.00 да 17.00 і 18.00 уключна.

Акрамя таго, падчас следства сведак пагрозамі прымушалі даваць загадзя ілжывыя паказанні супраць дзяцей, аб чым неаднаразова гаварылася ў судзе.

Загадзя ілжывыя паказанні давалі ў судзе і чацвёра работнікаў Першамайскага РАУС г. Віцебска: Г. Цітоў, А. Шэўчык, І. Губін, Г. Лавіцкі, што выклікала асуджэнне і смех прысутных у зале. Акрамя хлусні, яны вывучылі яшчэ дзве фразы: «Не ведаю» і «Не памятаю». Такім чынам, той, хто павінен няўхільна выконваць законы, іх беспакарана парушаў.

У ходзе судовых пасяджэнняў былі выяўленыя факты фальсіфікацыі паказанняў сведак. Дзецям давалі чытаць паказанні на маніторы, а затым змянялі паказанні і прымушалі падпісваць паперы, не даючы паўторна прачытаць. (На што маці А. Аўчарова пісала скаргу генеральнаму пракурору Р. Васілевічу).

З тэлефонных раздрукоўак кватэрнага тэлефона Логінава былі выключаныя два тэлефонныя званкі. Адзін у 16.08, другі ў 16.35, якія лішні раз пацвердзілі тое, што А. Логінаў у гэты час знаходзіўся з братам і маці дома.

Было здзейсненае нічым не прыкрытае жорсткае злачынства органамі ўнутраных справаў, пракуратурай і судмедэкспертамі супраць ні ў чым не вінаватых непаўнагадовых дзяцей, якія былі затрыманыя незаконна і знаходзіліся пад следствам і судом больш за 17 месяцаў.

Галоўнай сведкай якога нібыта была цяпер ужо 16-гадовая двойчы судзімая злачынца А. Сулімава, якая шмат разоў мяняла свае паказанні на папярэднім следстве (і ніхто не сумняваўся ў яе ілжывых сведчаннях), а таксама памяняла іх і ў судзе.

Асноўнымі сведкамі таксама былі тры закаранелыя злачынцы і рэцыдывісты, у паслужным спісе якіх — цяжкія злачынствы, забойствы і не адзін дзясятак лагераў і турмаў.

За гэтым злачынствам, акрамя пералічаных вышэй пракурорскіх работнікаў, стаіць больш за дзясятак высокапастаўленых і высокааплатных чыноўнікаў Першамайскага РАУС і УУС горада Віцебска: Цітоў Г.Д., Карчэўскі А.М., Губін І.М., Лавіцкі Г.В., Шэўчык А.П., Сарокін С.А., Петэрсан О.О., Гілько І.А., Шылін А.М., Шашкін В.В., Болдышаў С.В. і Грэкаў А.П.

### Шчацько — начальнікам, Цітова — на пенсію

Асобныя ўдзельнікі гэтай справы, якія збівалі і катавалі нашых дзяцей, атрымалі павышэнне (Ю. Шчацько прызначаны начальнікам аддзела Віцебскай аблпракуратуры), прэміі за гэтае злачынства, а крывažэрны маёр Цітоў Г. з ушанаваннямі быў адпраўлены на пенсію. А колькі дзяржаўных грошай выдаткоўвалася безвынікова: на камандзіровачныя выдаткі, праслухоўку тэлефонных размоваў, вонкавае назіранне, ахову ілжэсведкі (злачынцы Сулімавай). А вынік варты жалю — злачынец не знойдзены.

Нізкі паклон судовай калегіі Магілёўскага абласнога суда ў складзе старшыні А.П. Яфрэмава, народных засядальнікаў Цюзікава А.М. і Пусікава Б.І., якія не пайшлі на ўгоду з сумленнем. Выклікае здзіўленне пазіцыя Генеральнай пракуратуры, ва ўсіх дзеяннях работнікаў якой, ад раённага ўзроўню да найвышэйшага, праглядаецца кругавая парука. Не магу не завастрыць увагу на выступе ў Вярхоўным судзе 18 лютага 2011 года пры разглядзе касацыйных скаргаў А. Іглікавай і пацярпелай Сідаравай дзяржаўнага абвінаваўцы Цімафеева Д., які, у адрозненне ад абвінаваўцы Іглікавай, са справай не азнаёміўся. Інакш чым можна растлумачыць яго выпады ў адрас калегіі Магілёўскага абласнога суда аб тым, што не былі праверанія вынікі экспертызаў. Хоць вынікі экспертызаў былі перапраўераныя ГСМЭ г. Мінска і на судзе даваў тлумачэнні намеснік галоўнага эксперта РБ Кузьмічоў. Дарэчы, праз гэта судовае пасяджэнне было прыпыненае амаль на 7 тыдняў. Час забойства Д. Цімафееў ужо чамусьці меркавана назваў 13.30 (па версіі Іглікавай, 16.00 — 17.00, Сулімавай — 15.00 — 16.00), але затое з якім захапленнем ён апраўдваў злачынныя дзеянні працаўнікоў Першамайскага РАУС, узаконьваючы фізічны і псіхалагічны ціск на нашых дзяцей падчас папярэдняга расследавання, а з якім замілаваннем ён вынес свой вердыкт: «Прысуд Магілёўскага абласнога суда скасаваць, А. Логінава і А. Напаюка тэрмінова ўзяць пад варту...» Ва ўсіх прысутных у зале здарыўся шок. Толькі дзяржаўны абвінаваўца Д. Цімафееў у палкоўніцкіх пагонах лунаў у аблоках, аднак нядоўга цягнулася гэтая эйфарыя.

25 лютага 2011 года судовая калегія Вярхоўнага Суда пад старшынствам суддзі М.І. Герменчука, а таксама суддзяў В.А. Лаеўскага і В.Д. Крывой пакінулі прысуд Магілёўскай судовай калегіі без змены (без змены таксама пакінутыя і прыватныя пастановы ў адрас праваахоўных органаў і следчай групы пракуратуры), з моманту абвяшчэння якога ён уступіў у сілу. Нашы дзеці не вінаватыя, і месцы ў камеры вакантныя!

**Хачатур Хачатуран, Віцебск**

Як паведаміў «НН» бацька Аляксандра Логінава Хачатур Хачатуран, ён збіраецца падаваць у суд на ілжэсведку А.Сулімаву, і Ю.Шчацько, і А.Таўтына.

# Павел, Алесь, Кацярына, Канстанцін і Вольга

**Суддзя Вольга Комар, якая вынесла жорсткі прысуд Васілю Парфянкову па справе аб «масавых беспарадках», выявілася выпускніцай Беларускага ліцэя імя Якуба Коласа. Піша яе выкладчык Анатоль Сідарэвіч.**

Яны вучыліся на адным курсе і ў адной групе і скончылі навучанне ў Ліцэі ў 1995 годзе.

Калі не памыляюся, Вольга была ў ліку тых ліцэістаў, якія адвучыліся ў Ліцэі ўсе чатыры гады.

Ліцэй пачаў працу ў 1991 годзе, у кастрычніку. Набіралі адразу на першы, другі, трэці і чацвёрты курсы.

Памятаю, на чацвёртым курсе сярод пятнаццаці дзяўчат быў адзін хлопец — Алесь Міхалевіч. Скончыўшы Ліцэй, ён пайшоў на паліталагічнае аддзяленне юрыдычнага факультэта БДУ. З ім разам вучылася Кацярына Ткачэнка.

На трэцім курсе вучыўся Максім Чарняўскі, археолаг у другім пакаленні, таксама, як і бацька, ужо кандыдат гістарычных навук. Убачыўшы ў «Акадэмкнізе» Максімаву манаграфію, я са смуткам зразумеў, што амаль нічога ў археалогіі не разумею. Разам з Максімам вучыўся Косця Хадыка, сын «таго самага» прафесара Хадыкі.

Не магу згадаць, хто вучыўся ў 1991—1992 гг. на другім курсе. Затое някепска памятаю самых малодшых — першы курс. Вольга была залічаная ў 11-ю групу (гэта значыць, у першую групу першага курса), потым яна будзе вучыцца ў 21-й, 31-й і 41-й групах.

Тая група ўрэзалася мне ў памяць дзявочым лідарствам. З хлопцаў да III курса дайшоў толькі Зміцер Шараў — астатнія «адсеяліся». Затое на вакантныя месцы на III курс (адапаведнік X класа) прыйшлі моцныя хлопцы.

Паколькі я амаль усе гады працы ў ліцэі быў сакратаром прыёмнай камісіі, дык адразу прадказваў педагогам, якіх поспехаў можна чакаць ад таго ці іншага абітурыента, які паступаў у Ліцэй пасля 9-га класа школы. І ніколі не памыляўся.

Раскрыю маленькі сакрэт. У 1970-х я натрапіў на манаграфію амерыканскіх ці то брытанскіх аўтараў, прысвечаную псіхафізіялагічным праблемам пераходнага ўзросту. Гэта было даследаванне сувязі паміж полавым выспяваннем і псіхічнымі працэсамі, у тым ліку паміж полавым выспяваннем і поспехамі ў вучобе. Там я вычытаў, што хлопчыкі — з тае прычыны, што яны адстаюць у фізічным росце і выспяванні ад дзяўчат — у пераходным узросце пачынаюць у прысутнасці сваіх каляжанак комплексаваць і здаюць пазіцыі ў вучобе (некаторыя, на жаль, назаўсёды). Вось чаму сярод выпускнікоў базавай школы выдатніц у разы больш, чым выдатнікаў. І калі да нас у Ліцэй прыходзіў хлопец пасля IX класа, я адразу ж глядзеў у ягонае пасведчанне аб базавай адукацыі. Сярэдні бал «4,5», нават «4,3» даваў мне ўпэўненасць, што ў гэтага хлопца ўсё будзе о'кей. І пра гэта я казаў прадметнікам, якія прымалі ўступныя іспыты.

Дык вось, у 1993 годзе ў 31-ю групу, у якой вучылася Вольга, прыйшлі чатыры моцныя хлопцы: Павел Баркоўскі, Міхась Баярын, Антось Шахбазаў і Вадзім Шосцік. Разам з Міцем Шаравым іх было пяць на дзевятнаццаць дзяўчат. Працаваць з гэтымі хлопцамі было радасна. І яшчэ адзначу, што з трэцяга курса ў групе, у якой вучылася Вольга, лідарства перайшло да хлопцаў. Дзяўчаты — і Вольга, і Ірына Каштальян, і Кацярына Мохань, і Настасся Падаляка (сястра актора Рамана Падалякі, таксама нашага ліцэіста), і Вольга Русакова, і Ганна Цюцюнджан, і іншыя — стараліся ад іх не адставаць. Гэта была моцная група.

У 1995 годзе яны скончылі Ліцэй. Я ведаў, хто куды паступіў, але з дзяўчатамі, апроч «гістарычкі» Ірыны Каштальян, сустракацца не даводзілася. Пра Міцю Шарава ведаю, што ён скончыў гістфак БДУ і што яго сваталі на кадравую службу ў войска. Вадзім Шосцік скончыў міжнародны каледж у Трыесце, а потым Венскі эканамічны ўніверсітэт; атрымаўшы магістарскі дыплом, працуе дырэктарам ці то менеджарам на адным з фіятаўскіх заводаў. Антося Шахбазава апошні раз бачыў у 2001-м ці то ў 2002-м годзе ў экалагічным універсітэце імя Андрэя Сахарава. Я там выкладаў, а Антось, выпускнік універсітэта, прыходзіў у alma mater па аспіранцкіх справах. Цяпер кандыдат біялагічных навук Антон Шахбазаў жыве і працуе ў Канадзе. Паэт Міхась Баярын пайшоў у БДУ на аддзяленне класічнай філалогіі. На гэтае аддзяленне прыходзіў вывучаць старажытнагрэчаскую і студэнт філасофска-эканамічнага факультэта Павел Баркоўскі.

Міхась Баярын, як і Міця Шараў, знікне з відавоку. І толькі 19 снежня мінулага года я ўбачыў яго зноў. З Антосем і Вадзімам я магу абмяняцца весткамі па электроннай пошце. Сталы асабісты кантакт застаўся ў мяне толькі з Паўлам Баркоўскім. Ведаючы, што Павел вырашыў спецыялізавацца на



**Кандыдаты філасофскіх навук Вольга Шпарага і Ала Баркоўская ля Акрэсціна з перадачай мужу і сыну — таксама кандыдату філасофскіх навук Паўлу Баркоўскаму.**

герменэўтыцы, я падбіваў яго заняцца герменэўтыкаю Айцоў Царквы. Аднак Паўла, скептыка па натуры і безрэлігійнага чалавека, больш вабілі фігуры двух Фрыдрыхаў — Шлеермахера і Шлегеля. Стажыроўка ў цытадэлі неакантыянцаў, Марбургскім універсітэце, умацавала яго ў гэтым выбары.

...20 снежня мінулага года позна ўвечары я сядзеў на кухні ў кандыдаткі філасофскіх навук, дацэнткі БДУ Алы Віктараўны Баркоўскай. У той час у яе быў падвойны клопат: дапамагчы зрабіць хатняе заданне ўнуку і даведацца, дзе знаходзіцца сын. Потым трэба было пабыць з Цімафеем, пакуль ён не засне. Унук з твару больш падобны на бабулю, але постаць у яго бацькава. І ростам ён будзе не меншы за свайго татулю. Засынаючы, малы Цімафей, мабыць, думаў пра бацьку, які ўзяў ды перад самым Новым годам паехаў у нейкую камандзіроўку. Калі ўнук заснуў, бабуля тэлефанавала то ў ізалятар на вуліцы Акрэсціна, то ў такую ж установу ў Жодзіне і нідзе не магла дабіцца ўцямнага, канкрэтнага адказу на пытанне: дзе мой сын? І толькі ў дваццаць тры гадзіны без пяці хвілін мабіла дала сігнал, што прыйшло паведамленне. Ала Віктараўна цяпер ведала, што Павел знаходзіцца ў ізалятары на вуліцы Акрэсціна, што яго арыштавалі на 15 сутак. Значыць, Павел выйдзе 3 студзеня, прыкідвала Ала Віктараўна, а якраз на 3-га ў яго прызначаны іспыт. Што будзе? І новая трывога з'явілася ў маці: ці пакінуць Паўла на працы? «З яго кваліфікацыяй без працы не застанецца», — сказаў я перад адыходам. І Ала Віктараўна пад сакрэтам сказала, што ўжо была прапанова...

Здымак Алы Баркоўскай і Вольгі Шпарагі (Паўлава жонка) ужо ўвайшоў у фотакласіку і гісторыю Беларусі. На гэтым здымку паказана, як дзве кандыдаткі філасофскіх навук, дзве дацэнткі ля сцяны ізалятара пакуюць перадачу свайму сыну і мужу, таксама кандыдату філасофскіх навук і дацэнту.

Вестку пра арышт Паўла Баркоўскага і здымак я даслаў па электроннай пошце пятнаццаці былым ліцэістам і іх настаўніку Лявону Баршчэўскаму, які пад той час разам з падпольным Ліцэем знаходзіўся ў Польшчы. (Пра тое, што арыштаваны выпускнік Ліцэя Алесь Міхалевіч, паведамілі, бадай, усе польскія СМІ.)

Потым мне давялося паведаміць былым ліцэістам і Лявону праператрус у Міхалевічавай аднакурсніцы, журналісткі Кацярыны Ткачэнка, пра тое, што жорстка быў збіты наш выпускнік Канстанцін Хадыка...

Учора ж увечары я патэлефанаваў Паўлу Баркоўскаму, каб удакладніць:

— Вольга Канойка з табою разам вучылася? Ты ведаеш, што яна засудзіла Васіля Парфянкова на чатыры гады?

Вольга вучылася ў адной групе з Паўлам. Праўда, яна цяпер не Канойка, а Вольга Комар, суддзя. Цікава, які прысуд яна вынесла б Паўлу, калі б ён трапіў на лаву падсудных да яе? Або Кацярыне Ткачэнка ці Канстанціну Хадыку? Былы ліцэіст, багеміст і блогер Сяргей Сматрычэнка нават прапануе, каб суд над Алесем Міхалевічам адбыўся ў доме № 21 па вуліцы Кірава, дзе вучыліся Вольга і Павел і дзе цяпер месціцца суд Цэнтральнага раёна Мінска.

# Лукашэнку трохі абсвісталі

Гэта здарылася на хакейным матчы 27 лютага на «Мінск-Арэне».

Лукашэнка прысутнічаў на чацвёртым матчы серыі чвэрцьфіналу Заходняй канферэнцыі. Калі вядучы паведаміў, што ў зале ёсць кіраўнік дзяржавы, у зале пачуліся як воплескі, так і свіст.

Месцамі свіст быў такі моцны, што «закладала вушы», паведаміў «НН» чытач, што быў на трыбунах. Другі чытач лічыць, што «воплескаў было болей, чым свісту, але вялікая частка залы сапраўды свістала».

На матчы прысутнічала каля 16 тысяч гледачоў — такую масу людзей немагчыма кантраляваць з дапамогай падсадных агентаў.

Факт асвіставання Лукашэнкі абмяркоўся на інтэрнэт-форумах газеты «Прессбол» як незвычайны. Варта нагадаць, што рэвалюцыя ў Румыніі некалі пачалася з абсвіставання дыктатара на мітынгу, які ён сабраў у сваю падтрымку. Свіст так збянтэжыў Чаўшэску, што ён перарваў прамову і сышоў з трыбуны.

У Беларусі публічная крытыка Лукашэнкі не гучыць. «Дзяржаўныя СМІ» даюць толькі пазітыўную інфармацыю пра яго і ягоную дзейнасць і не дазваляюць негатыўных ацэнак.

Лукашэнка ў апошнія гады з'яўляецца толькі ў падрыхтаваных аўдыторыях, якія знаходзяцца пад строгім кантролем яго службы аховы, што стварае спецыфічную псіхалагічную атмасферу.

Паводле некаторых ацэнак, рэйтынг Лукашэнкі ў Мінску напярэдадні выбараў складаў усяго ад 30 да 40 працэнтаў. У адрозненне ад мінулых часоў, кляцьбу на ягоны адрас цяпер можна нярэдка пачуць у грамадскім транспарце і чэргах на поштах і ў банках.

І абсвістванне 27 лютага, як выглядае, было спантанным. Яго не справакавала ніводная з апазіцыйных груп.

**Сяргей Гезгала**



# Незалежныя прафсаюзы: Беларусаў марозяць на заводах

Артыкул «Дубар на «Інтэграле», змешчаны на сайце «Нашай Нівы», выклікаў водгукі з усёй краіны.

У каментарах чытачы распавялі пра цяжкія ўмовы працы на сваіх прадпрыемствах.

«Каб вы бачылі завод «Лёс» у Барані — там усю зіму мароз у цэхах і заробак 300 тыс. руб.».

Пра Гомельскі радыёзавод пісалі: «Зімой табе на галаву і на станок — снег, калі не зіма — дождж».

Пра гродзенскі «Белтапаз» — што там тэмпература падае ніжэй за нуль.

На БелАЗе, паводле чытачоў, не заўсёды працуе душ, няма гарачай вады, а тым часам кіраўніцтва завода адрамантавала адміністрацыйны корпус і ў вус не дзьме.

Скаргі на ўмовы працы прыйшлі таксама з рагачоўскага завода «Дыяпраектар», мінскага завода імя Вавілава...

Паводле словаў старшыні незалежнага Прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Генадзя Фядыніча, тэма холаду на беларускіх прадпрыемствах актуальная кожную зіму. «За саветамі паліва не шкадавалі. Цяпер жа эканомяць, але на кім? На ўласных рабочых, на іх здароўі!» — кажа сп. Фядыніч. Прадстаўнікі незалежных прафсаюзаў як могуць выпраўляюць сітуацыю — раздаюць рабочым тэрмометры, тлумачаць ім іхнія правы (бо не многія іх ведаюць).

«Што да «Інтэграла», то на ім холадна было і да аварыі. Тое самае можа адбыцца на любым з прадпрыемстваў, не толькі ў радыёэлектроніцы. Скажу шчыра — выправіць сітуацыю ў гэтай галіне можа толькі рэвалюцыя: пабурыць старыя цэхі і збудаваць кампактныя і сучасныя».

**Сямён Печанко**

**Працоўны кодэкс гарантуе** кожнаму працаўніку незалежна ад формы ўласнасці прадпрыемства права на працоўнае месца, якое адпавядае правілам аховы працы.

Санітарныя правілы вызначаюць гігіенічныя патрабаванні да паказчыкаў мікраклімату працоўных месцаў вытворчых памяшканняў з улікам энергазатрат працаўнікоў, часу выканання працы, перыядаў года.

Устаноўленыя наступныя катэгорыі прац:

Іа — працы, якія выконваюцца седзячы і суправаджаюцца нязначным фізічным напружаннем (20 — 21,9 градуса);

Іб — працы, якія выконваюцца седзячы, стоячы або звязаныя з хадой і суправаджаюцца некаторым фізічным напружаннем (19 — 20,9 градуса);

ІІ а — працы, звязаныя з пастаяннай хадой, перамяшчэннем дробных (да 1 кг) вырабаў або прадметаў у становішчы стоячы ці седзячы і патрабуюць пэўнага фізічнага напружання (17 — 18,9 градуса);

ІІ б — працы, звязаныя з хадой, перамяшчэннем і пераноскай цяжараў да 10 кг і суправаджаюцца ўмераным фізічным напружаннем (15 — 16,9 градуса);

ІІІ — працы, звязаныя з пастаяннымі перасоўваннямі, перамяшчэннем і пераносам значных (да 10 кг) цяжараў і якія патрабуюць вялікіх фізічных нагрузак (13 — 15,9 градуса).

У гардэробных памяшканнях з душам тэмпература павінна быць не ніжэйшай за 23 градусы, а ў памяшканнях кіраўнікоў і тэхнічных работнікаў не ніжэйшай за 18 градусаў.

У выпадку немагчымасці забяспечыць прыведзеныя параметры скарачаецца час знаходжання на працоўным месцы працаўніка.

ЗВЯРНУЎСЯ ЧЫТАЧ

## Дубар на «Інтэграле»

Супрацоўнік прадпрыемства піша пра блізкія да нуля тэмпературы ў цэхах.

У рэдакцыю «НН» звярнуўся супрацоўнік мінскага ААТ «Інтэграл». Ён піша, што 14 лютага на прадпрыемстве здарылася аварыя ў сістэме цеплазабеспячэння. У выніку ў памяшканнях «Інтэграла» трымаецца нізкая тэмпература (месцамі ўсяго 3 градусы цяпла). Ад гэтага, паводле яго словаў, нават спынялі вытворчасць, а частку супрацоўнікаў адправілі ў вымушаны адпачынак за дзве траціны заробку. Людзі вымушаныя былі працаваць у вопратцы.

Паводле супрацоўніка прадпрыемства, летась на «Інтэграле» запрацавала ўласная ЦЭЦ. Лішкі цяпла вырашылі прадаваць на патрэбы суседніх жылых дамоў. Паводле афіцыйнай версіі, піша супрацоўнік «Інтэграла», аварыя здарылася ў выніку перавышэння ціску ў ацяпляльнай сістэме — не вытрымалі трубы. Супрацоўнікі ж мяркуюць, што на выхадных ацяпленне адключылі дзеля эканоміі, трубы размерзліся ды лопнулі.

«У гэты панядзелак тэмпература ўранку ў кабінеце была ўсяго толькі +5, — піша чытач. — Да канца працоўнага дня «нагрэлі» да +9. Даводзіцца ў куртках ды ў паліто працаваць».

Галоўны інжынер прадпрыемства Аркадзь Турцэвіч спачатку адмовіўся гаварыць. Але потым каротка адзначыў: «Усё ў нас працуе. Мы, калі вам цікава, працуем і ў выхадныя дні». На пытанне, ці была ўсё ж на «Інтэграле» аварыя, Аркадзь Сцяпанавіч адказаў расплывіста: «На любой вытворчасці здараюцца аварыі, прарывы на цеплатрасах. Нейкія прарывы былі, але яны адрамантаваныя, мы ўжо даўно працуем».

**СП**

Артыкул падрыхтаваны 22 лютага

# «Не магу выбрацца, тут пажар. Я вас усіх люблю»

У часе пажару пад Брэстам 23-гадовы мужчына паспеў патэлефанаваць з-пад завалаў перад смерцю.



Трагедыя здарылася 21 лютага ў вёсцы Буякі, што за пару кіламетраў на ўсход ад Брэста, каля трасы Брэст—Мінск. На прыватным прадпрыемстве адбыўся пажар. У будынку месціўся склад кветак і офіс.

Спачатку прагрымеў выбух, паведамляе сайт Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. У выніку здарэння адзін чалавек загінуў, двое — параненыя. Разбураныя апорныя сцены 1 і 2 паверхаў, абрынуліся пліты перакрыцця, дахавымі канструкцыямі знішчаны грузавы аўтамабіль «Мерсэдэс», які знаходзіўся ў гаражы будынка.

Праз 12 хвілін пасля пачатку пошукаў з-пад завалаў супрацоўнікі МНС дасталі мужчыну. Ён шпіталізаваны ў рэанімацыю. Цела хлопца, які загінуў, знайшлі пазней, калі большую частку завалаў разабралі.

— У той дзень у адной з супрацоўніц нашага прадпрыемства быў дзень нараджэння. Адсвяткаваць яго на кухні сабралася дзевяць чалавек. Мне расказалі, што мой стрыечны брат і яшчэ адзін кіроўца выйшлі ў іншы пакой. У гэты момант усё і здарылася, — распавёў «Комсомольской правде» Віталь, сын дырэктара прадпрыемства. — Ці то выбух, ці то паваліўся дах, людзі не зразумелі. Але будынак разбурыўся. Тых, хто быў на кухні, выкінула хваляй на вуліцу. Аднаго мужчыну выявілі пад завалам адразу. А майго брата Віталіка няма...

Ён клікаў на дапамогу, але яго нідзе не маглі знайсці. Шукаў яго і мой бацька, які быў таксама ў будынку. А потым усё загарэлася. З-пад завалаў брат патэлефанаваў сваёй жонцы, бацькам і развітаўся. Сказаў: «Не магу выбрацца, тут пажар. Я вас усіх люблю».

Цела знайшлі толькі ўначы.

У мужчыны засталася паўтарагадовая дачка.

Пракурор Брэсцкага раёна Віктар Халаповіч назваў магчымай прычынай выбуху ўцечку газу.

**СГ**

## Здарэнні сцісла

• **У Беларусі адраджаецца рэкет?** У Мінску затрыманая бандыцкая група, якая выкрадала людзей, вывозіла іх у лес і там катавала, патрабуючы грошай. Прозвішча аднаго з падазраваных Сонцаў — раней судзімы за забойства жыхар Пухавіцкага раёна.

• **За падробнае пасведчанне інваліда пасадзяць на два гады.** Пазнаёміўшыся з мужчынам, дзяўчына запрасіла яго да сябе ў госці. Госць звярнуў увагу на пакінутае на канапе пасведчанне інваліда. Дзяўчына патлумачыла, што дакумент належыць яе 80-гадоваму дзядулю. Мужчына выкраў дакумент, зрабіў копію, прыляпіў туды сваю фатаграфію і заламінаваў фальшыўку. Прыйшоўшы наступным разам да сваёй знаёмай, залётнік падкінуў выкрадзенае пасведчанне. Аднак падчас чарговага візіту падробка выпадкова выпала з кішэні і трапіла на вочы законнаму ўладальніку пасведчання. Дзядуля абурыўся і паведаміў пра інцыдэнт у міліцыю. 35-гадовага грузчыка пункта прыёму шклатары затрымалі. Цяпер яму пагражаюць два гады зняволення.

**СМ**

# Рок-каранацыю ажывіў ШОС

**Падчас «Рок-каранацыі» N.R.M. названы «гуртом 15-годдзя» і ўганараваны за найлепшы альбом 15-годдзя. Без Вольскага гурт меладычна быў той самы, але з горшымі тэкстамі.**



**N.R.M. ігралі з пустым вакальным мікрафонам.**

Сёлетняя, пятнаццатая рок-каранацыя, прайшла без узнагароджванняў: арганізатары вырашылі зладзіць гала-канцэрт і сімвалічна выбраць найлепшы альбом і найлепшы гурт за апошнія 15 гадоў.

Пасля праблем з пажарнай сігналізацыяй мерапрыемства перанеслася з прасторнай канцэртнай залы «Мінск» у клуб «Рэактар». Тут, дарэчы, карані яшчэ адной спрэчкі — ці клубнае гэта мерапрыемства.

Здаецца, «Рэактар» для каранацыі ідэальны: усё ж такі слухаць рок-музыку ў крэслах, у абсалютнай цвярозасці і без магчымасці танчыць могуць, бадай што, толькі ў нас.

А клуб стварае своеасаблівую рок-н-рольную атмасферу. З іншага боку, на каранацыю ў «Рэактар» прыйшло ўсяго чалавек пяцьсот.

Не ва ўсіх знайшлася магчымасць змяніць планы, дый абмен квіткоў адсейвае пэўную колькасць народу.

### Ад блюза да ШОСа

Вялі мерапрыемства Аляксандр Памідораў і Іна Кашырына. Калі Памідораў ужо заслужаны вядоўца, які, калі што, зможа выцягнуць усё мерапрыемства «на сабе», то спадарыня Кашырына, відаць, трошкі з іншай оперы — такую манеру весці канцэрт звыкла было б бачыць у філармоніі. Першымі выступалі Drum Ecstasy — тры бубначы і гітарыст. Відаць, менавіта так, з гучнай і адначасова цяжкай ноты і павінен пачынацца рок-фэст.

«Крама» (дарэчы, самыя першыя рок-каралі) выдала класічную порцыю хард-блюза, з традыцыйна моцнымі сола на губным гармоніку (дарэчы, у Беларусі рэдка сустракаецца). Публіка паспела расслабіцца пасля працоўнага дня і з задавальненнем падпявала Варашкевічу. Але тут і з'явілася тое адчуванне, якое трымалася першую гадзіну: як быццам прысутнічаеш не на рок-каранацыі, а на вечары памяці ў рокерскім разуменні такога панятку.

Пасля «Крамы» на сцэну выйшлі Kriwi — чарговы склад гурта змешвае фолк-матывы, фанк, кабарэ, рок-н-рол, этніку... Вераніка Круглова цягам адной песні пераўвасабляецца з Лайзы Мінэлі ў Бобі Макфэрына і наадварот.

Зміцер Вайцюшкевіч адразу ж пасля вітання тройчы прамовіў: «ШОС!» [папулярны гумарыстычна тост «Шоб он сдох»]. І аўдыторыя перамянілася, як быццам трапіўшы ў іншую энергетычную плынь. Тодар з акустычнай гітарай пераплюнуў усіх папярэдніх выступоўцаў. Сольная акустыка — рэч увогуле спецыфічная для любога музыканта, але ўжо пасля першай песні (на словы Караткевіча) людзі адчулі каларыт менавіта той напаўпадпольнай рок-каранацыі, якую так хацелася б аднавіць.

«Я нарадзіўся тут» (з ужо звыклымі словамі пра пецярбуржца Скарыну) спявалі хорам, а Вайцюшкевіч «узмацняў» рытм ШОСам.

### Стары новы N.R.M.

Піт Паўлаў адразу заявіў, што сёння прагучаць песні з новага альбома, які цяпер пішацца. Асноўнае пытанне — хто будзе на альбоме адказным за вакал — такім чынам закрылася. Выступ N.R.M. быў галоўнай інтрыгай мерапрыемства: як будзе гучаць гурт без Вольскага і ці варта лічыць такі гурт N.R.M.ам? Некаторыя прынцыпова не пайшлі на каранацыю праз адсутнасць Вольскага.

N.R.M. меладычна быў той самы, але тэксты Вольскага нашмат лепшыя.

Песню «Аўтарадыё» разам з энэрэмаўцамі выканала Ірына Львова — праграмная дырэктарка радыёстанцыі, зачыненай пасля выбараў за трансляцыю ролікаў і выступаў незалежных кандыдатаў. Неўзабаве песня з'явіцца ў інтэрнэце. А вось «Тры чарапахі» прагучалі не так, як раней, хаця ў музычным плане там нічога не змянілася. Кожны радок цяпер спяваюць напалам Паўлаў і Дземідовіч. Але публіка рэагавала станоўча — старыя песні самі сабой горшымі не сталі, і хай спявае лепш Паўлаў, чым ніхто. Тым больш Лявон Вольскі цяпер працуе з зусім іншай музыкай. Але пусты вакальны мікрафон пасярод сцэны ўвесь час нагадваў, што калісьці гэта быў іншы гурт. Хаця мелодыка і хітовасць класічнага N.R.M.а засталася і ў новых песнях.

N.R.M. быў прызнаны найлепшым гуртам 15-годдзя, а найлепшым альбомам за той жа перыяд былі прызнаныя іх «Тры чарапахі».

### «Нейра Дзюбель» як эмацыйны цэнтр

А народнымі героямі, як і летась, сталі «Нейра Дзюбель». Яны даўно даказалі, што могуць дазволіць сабе ўсё: хоць запісваць і спяваць кавер-версіі Давіда Тухманава. Усе гэтыя «Дзеці галактыкі» ўсё адно гучаць так, нібы іх напісаў Кулінковіч. Прыйшло адчуванне, што каранацыя і ладзілася выключна для таго, каб сыграў гэты гурт: можна доўга апісваць, як літаральна за тры хвіліны «на вушы» паднялася ўся зала, як шаманіў са сцэны, сагнуўшыся «пытальнікам», Кулінковіч, але калі на самым ускрайку танцпадлогі мы заўважылі мужчыну ў афіцыйным касцюме, з залачонай асадкай у кішэні і агромністым чырвона-зялёным значкам на лацкане, які, ускідваючы ўверх рукі, спяваў «І так можна жыць» — стала зразумела, хто тут сапраўдныя рок-каралі.

Пасля «Нейра Дзюбеля» на сцэну выйшла Кася Камоцкая і пад гітарны акампанемент Памідорава праспявала песню «Мая краіна», у памяць Таццяны Сапач. У канцы песні зала пракрычала «Жыве Беларусь».

На гэтым эмацыйная частка рок-каранацыі скончылася, бо «Палац» з найлепшымі хітамі выглядаў пасля гэтага эмацыйнага ўсплёску бляклa. А «Без білета», якія маюць мала дачынення да року, толькі нагадалі, што цяперашняя рок-каранацыя — зусім іншая, як бы мы да гэтага ні ставіліся.

**Юрась Ускоў**

ПОСТАЦІ

# Першыя зярняткі, або Настаўнік з Божай ласкі



**Сяргей Паўловіч не быў палітыкам, пісьменнікам, аднак здолеў узвысіцца ў Заходняй Беларусі ў ранг выдатных беларускіх дзеячаў. Эцюд Арсеня Ліса.**

Кандыдат багаслоўя Паўловіч, родам з Кобрыншчыны, па сканчэнні Кіеўскай духоўнай акадэміі (1899) выбраў за ніву сваёй працы народную асвету. Працаваў выкладчыкам Рагачоўскай семінарыі і жаночай гімназіі, інспектарам школ у Ваўкавыскім павеце. Першая сусветная вайна выкінула яго з сотнямі тысяч суайчыннікаў у бежанства ў Расію. Давялося перажыць нямала. У грамадзянскую вайну праз выкладчыцкі віцмундзір інтэлігентнага выгляду педагог Паўловіч трапіў у закладнікі і цудам ацалеў. У 1921 г. рээвакуяваўся на Бацькаўшчыну, у Заходнюю Беларусь.

На хвалі нацыянальна-вызваленчага руху ў Вільні са сціплага настаўніка вырас на прызнанага педагога, аўтара знакамітых на ўсю Беларусь кніг-граматык, чытанак.

Самі найменні іх, узятыя з народнага жыцця («Першыя зярняткі», «Засеўкі» (1937), сведчылі, як арганічна вырастала праца таленавітага педагога з тысячагадовага досведу народнага.

Праца Паўловіча на пасадзе дырэктара Віленскай беларускай гімназіі (1925—1938) і асабліва ў Галоўнай управе Таварыства беларускай школы па-свойму была ацэненая польскай адміністрацыяй. Паўловіча двойчы, у 1930 і 1933 гг., арыштоўвалі і кідалі ў Лукішскі астрог, хоць ён не належаў не толькі да якой-небудзь радыкальнай, а наогул ні да якой партыі. Прадстаўнікі рэжыму бачылі ў ім духоўную сілу.

Пазбаўленыя з ласкі пілсудчыкаў беларускай школы, дзеці заходніх беларусаў раслі людзьмі свядомымі. І ў гэтым была немалая заслуга С. Паўловіча.

Польскай адміністрацыі так і не ўдалося ў дачыненні да беларусаў рэалізаваць сваю каланізацыйную палітыку: ператварыць цэлы народ у этнічна інертную масу. Кнігі Паўловіча былі фактарам супраціўлення паланізацыі. Нездарма яго «Засеўкі» забараняліся, і паліцыя падчас ператрусаў у вёсцы рвала, нішчыла іх. Хоць у падручніках Паўловіча не было ніякіх палітычных лозунгаў. Там быў тактоўна, таленавіта ўзноўлены ў слове родны свет. Тое, што атачала беларускіх дзяцей ад калыскі.

Ва ўмовах закрыцця беларускіх школ Паўловіч аддаваў вялікую ўвагу хатняй адукацыі, пазашкольнаму навучанню. У часопісе «Беларускі летапіс» ён выступае з публікацыямі на тэму методыкі навучання без школы, стварае спецыяльныя падручнікі, у тым ліку «Пішы самадзейна». Паўловічам напісаны і арыгінальны беларускі падручнік па гісторыі рэлігіі. Навуковец-педагог разумеў значэнне рэлігіі ў нацыянальным выхаванні, асабліва ва ўмовах Беларусі, дзе як каталіцызм, так і праваслаўе імкнуліся да дэнацыяналізацыі народа. Для педагогікі, народнай асветы Паўловіч браў этычныя моманты хрысціянства, яго этычна-эстэтычныя вартасці.

Гэта асабліва добра відаць з часопіса «Снапок», які ён выдаваў у 1937—1939 гг. у Варшаве для беларускіх дзяцей, дзе, дарэчы, былі апублікаваныя найлепшыя творы, напісаныя для дзяцей Максімам Танкам.

Гэты несамавіты вонкава чалавек (Паўловіч быў невысокага росту, просты з выгляду) ажыццявіў асветніцкі подзвіг. Рэпрэзентант беларускай культуры і грамадскай думкі Рыгор Шырма называў Паўловіча «выдатным педагогам», славутым мужам Беларусі. І гэта была аб'ектыўная ацэнка культурна-грамадскай, асветнай дзейнасці С.К. Паўловіча.

Спадчына асветніка-патрыёта, яго маральны аўтарытэт і праз семдзесят гадоў пасля смерці Настаўніка застаюцца актуальныя для сённяшняга беларускага грамадства.

# Каранацыя Міндоўга з Чыкага

У музеях ёсць такая практыка: выстава аднае карціны. Зазвычай так экспануюцца знакавыя, важныя творы. У гэтыя дні ў Нацыянальным мастацкім музеі праходзіць менавіта такая выстава. Экспануецца карціна «Каранацыя Міндоўга» Адомаса Варнаса, прымеркаваная да 1000-годдзя першай згадкі назвы «Літва». І вернісаж з хлапечым хорам, і сама падзея прыцягнулі ўвагу не толькі глядацкай публікі, але і журналістаў і палітыкаў.

Палатно «Каранацыя Міндоўга» літоўскі мастак Варнас стварыў у Чыкага, на эміграцыі, да 700-годдзя хросту Літвы і каранацыі Міндоўга. Карціну мастак пісаў чатыры (!) гады, да 1955 года, калі яму самому было ўжо 70 гадоў. А. Варнас паказаў кульмінацыйны момант каранацыі — на галаву ўкленчанага правіцеля біскуп Кулма ўскладае карону.

Ствараючы палатно, Варнас звяртаўся да слынных літоўскіх гісторыкаў, якія жылі ў эміграцыі: Шапокі і Івінскіса. Што праўда, у беларускай версіі адлюстраваныя літоўскім творцам падзеі выглядаюць зусім іначай. Тое, што думаюць пра нас іншыя, здаецца нам больш важным і аб'ектыўным за тое, што думаем пра сябе мы самі.

У гістарычную сцэну XIII стагоддзя Адомас Варнас уключыў выявы літоўскіх адраджэнцаў XIX—XX стагоддзяў — Антанаса Страздзяліса, Вінцаса Кудзіркі ды іншых, знітаваўшы даўніну з сучаснасцю. Гэтая карціна — алегорыя, а не дакументальна дакладная ілюстрацыя гісторыі. Таму вышукваць гістарычныя недакладнасці тут недарэчы.

Гэта твор літоўскага адраджэнца-эмігранта, што ўвасобіў мары, памкненні і амбіцыі свайго народа.

Выстава ў Мастацкім музеі працягнецца да 17 сакавіка.

## Беларускі след

Адомас Варнас атрымаў грунтоўную, хоць і бессістэмную мастацкую адукацыю ў Пецярбургу, Варшаве, Кракаве, Жэневе, Вільні. Дарэчы, ён вучыўся пэўны час разам з беларускім мастаком Язэпам Драздовічам у малявальнай школе Трутнёва ў Вільні. А ў міжваенны час быў настаўнікам Пётры Сергіевіча, чые творы вядомыя кожнаму беларускаму школьніку. Малады Сергіевіч у 1919 годзе наведваў Вольную школу малюнка і жывапісу літоўскага мастака ў Вільні. Адомас Варнас у міжваеннай Літве стаў жывым класікам, які стварыў пантэон вобразаў дзеячаў літоўскае культуры. Выбітны партрэтыст, таленавіты графік, ён наўпрост спрычыніўся да стварэння нацыянальнае школы літоўскага мастацтва.

У міжваенны час Варнас падарожнічаў па маленькай Літве, малюючы і фатаграфуючы прыдарожныя капліцы і крыжы, старадаўнія народныя святыні.У 1938 г. на 30-годдзе творчай дзейнасці мастака ў Каўнасе на выставе экспанаваліся блізу 200 працаў жывапісу, 300 графікі і малюнкаў. На жаль, з усяго збору яго працаў да нашых дзён захавалася не так шмат, падчас Другой сусветнай вайны згарэў яго дом і знікла сабраная ім унікальная калекцыя народнага мастацтва. У 1944 г. Адомас Варнас з'язджае на Захад, у Амерыку, дзе дачакаўся стагадовага ўзросту.

Карціну Варнаса «Каранацыя Міндоўга» Літве падарыў інжынер, дзеяч літоўскай культуры, мецэнат Домас Адамайціс з Чыкага.

Так літоўцы вучаць нас шанаваць сваё — традыцыю, гісторыю, мастацтва.

На вялікі жаль, творы беларускіх калегаў і вучняў Варнаса, геніяльных мастакоў Язэпа Драздовіча і Пётры Сергіевіча, сёння не ў такой пашане ў Беларусі. Большасць класічных палотнаў Пётры Сергіевіча зберагаецца ў музеях Літвы, а некалькі твораў Язэпа Драздовіча змясцілі ў невялічкі закутак мастацкага музея. Іх час не прыйшоў...



## Народжаныя ў СССР

Тутсама, у Нацыянальным мастацкім, праходзіць вялікая выстава твораў беларускіх жывапісцаў, якім выпала нарадзіцца ў Беларусі ў 1920-я, у разгар беларусізацыі, у эпоху найвялікшых дасягненняў нашай мастацкай культуры і паўставання нацыянальнай школы мастацтва. Іх творчасць гартавалася ў рэчышчы сацыялістычнага рэалізму. Якім стала нашае мастацтва пасля ад'езду Шагала і Малевіча, ва ўмовах татальных рэпрэсіяў? Як ні дзіўна, мастацтва БССР засталося жыццярадасным, бесканфліктным і вельмі дэкаратыўным. Выстава «Народжаныя ў 1920-я» ўнікальная і тым, што шэраг твораў прадстаўленыя сем'ямі мастакоў, з прыватных збораў. Тут выстаўленыя палотны творцаў розных лёсаў і рознага маштабу — Мікалая Вальнца, Ісака Бароўскага, Івана Пешкура, Уладзіміра Белавусава, Мікалая Палянкова, чые імёны мала што скажуць шырокай публіцы. І дарма, бо іх майстэрства несумнеўнае, як і вартасць іх твораў.

Гэта першая з серыі выставаў, прысвечаных мастакам — юбілярам 2011 года. Якім, чыім мастацтвам сёння прадстаўляецца Беларусь? Мы гэта ўбачым на наступных выставах...

## Жанчыны ў кантэксце

А галерэя «Ў» (пр.Незалежнасці, 37а) прэзентавала 1 сакавіка праект «Жаночы кантэкст» Сяргея Грыневіча, мастака з Гродна, чыя творчая дзейнасць не абмяжоўваецца адно жывапісам. Сёння Сяргей працуе і ў галіне манументальнага мастацтва, вітража, роспісу. У ягоных працах змешваюцца розныя роды і віды мастацтваў, як і спрадвеку ў самой гарадзенскай культуры...

Так сталася, што гэта адзін з найбольш вядомых нашых сучасных творцаў. Мастак стала бярэ ўдзел у беларускіх і міжнародных праектах, дзе прадстаўляе нашу Беларусь і сваю Гродзеншчыну. Працы Сяргея экспанаваліся на выставах у Польшчы і Украіне, Расіі і Літве, Францыі і Нямеччыне. Карціны майстра захоўваюцца ў шматлікіх прыватных калекцыях у Беларусі, Іспаніі, Швейцарыі...

На пытанне, чаму ў нашу эпоху неактуальна быць адметным, нямодна быць арыгінальным, Сяргей Грыневіч адказвае серыяй жывапісных жаночых вобразаў. Спрабуе адказаць феерыяй колераў з «Жаночага кантэксту».

А мастачкі ствараюць уласны жаночы, свой кантэкст. У малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47) праходзіць выстава жывапісу Таццяны Гардашнікавай «Гульня ў коткі». Таццяна Гардашнікава, славутая мастачка-графік, працуе ў жывапісе, плакаце і кніжнай ілюстрацыі, займаецца дызайнам. Яе выстава «Гульня ў коткі» ўключае 25 жывапісных твораў, якія ўяўляюць сабой аўтарскую інтэрпрэтацыю ўспрымання кацінае сутнасці. Гэта вельмі лёгкае, забаўнае мастацтва. Акурат прызначанае для сямейных культурных выправаў на выходныя.

Выявы пухнатых свойскіх жывёлаў, што надзеленыя людскімі аблічамі, пачуццямі і эмоцыямі, пацяшаюць. А некаторыя каты і коткі з атрыбутамі і антуражам вядомых персанажаў: поп-зорак, знакамітых актораў, гістарычных дзеячаў — змусяць зірнуць на нас саміх па-іншаму. Зрэшты, зірнуць па-іншаму і на сучаснае мастацтва. Бадай, дзеці ацэняць жывапіс мастачкі Гардашнікай належным чынам. Гэтымі першымі веснавымі днямі...

**Сяргей Харэўскі**

## КАНЦЭРТЫ

### «Ляпіс Трубяцкой»: Магілёў—Гомель—Мінск

Гурт «Ляпіс Трубяцкой» адправіўся ў тур у падтрымку новага альбома «Вясёлыя карцінкі», выхад якога запланаваны на 11 сакавіка. **4 сакавіка яны зайграюць у Магілёве (клуб «Ліга»), 13 сакавіка — у Гомелі, на манежы «Дынама», 1 і 2 красавіка — у мінскім клубе «Рэактар».**

### Цэзарыя Эвара

**10 сакавіка а 19-й у Палацы Рэспублікі** — выступае Цэзарыя Эвара. Гэта ўжо другі прыезд у Мінск басаногай спявачкі з Каба-Вердэ. Яна спявае песні сваёй радзімы.

### Эл Джэра

**4 сакавіка ў Філармоніі** — канцэрт Эл Джэра. Гэта адзін з найвядомейшых джазавых спевакоў з ЗША. **Пачатак а 19-й.**

### Гаротніца

**4 сакавіка ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурта «Гаротніца». **Пачатак а 19-й.**

### «Без білета» ў «Рэактары»

**8 сакавіка у «Рэактары» (вул. Харужай, 29)** зайграе гурт «Без білета». **Пачатак а 19-й.**

### Madera Hard Blues

**12 сакавіка а 18-й у «Графіці»** зайграе адзін з найстарэйшых блюзавых гуртоў краіны — Madera Hard Blues.

### Нагуаль

**6 сакавіка ў «Графіці» а 19-й** — канцэрт псіхадэлічнага «Нагуаля».

## ІМПРЭЗЫ

### Масленіца

Музей народнай архітэктуры і побыту запрашае **6 сакавіка** на «Провады Масленіцы». **Святкаванні пачнуцца а 12-й і працягнуцца да 15.30.** Правесці Зіму дапамогуць спевы і карагоды ў выкананні «Грамніц», «Шчодрыцы», «Беларускай песні», «Джамбібума». Музей знаходзіцца за 4 км ад МКАД за аўтарынкам «Малінаўка» за в. Азярцо. Праезд ад аўтастанцыі «Паўднёва-Заходняя» прыгараднымі аўтобусамі ў накірунках: Гарадзішча, Дубянцы, калгас Калініна, Заходнія могілкі.

## ВЫСТАВЫ

### Строі нацыянальных меншасцяў КНР

**У Гістарычным музеі да 13 сакавіка** працуе выстава «Строі нацыянальных меншасцяў КНР». На выставе прадстаўлена каля 30 строяў, а таксама лялькі ў нацыянальных касцюмах.

### Лядовыя скульптуры Руслана Ярохава

**У Гомельскім парку (паўночнае крыло палаца Румянцавых і Паскевічаў) да 3 сакавіка** працуе выстава лядовых скульптур.




## ТЭАТРЫ

**5 сакавіка**

**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»

**6 сакавіка**

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Памінальная малітва»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

**8 сакавіка**

**Лялек** — «Чырвоны Каптурык»

**9 сакавіка**

**Оперы і балета** — «Жарсці (Рагнеда)»
**Купалаўскі** — «ГендэльБах»
**Беларускай драматургіі** — «Дзённік паэта (Інтымны дзённік)»

**10 сакавіка**

**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Беларускай драматургіі** — «Хто пакахае мадам?»

**11 сакавіка**

**Купалаўскі** — «Не мой»
**Беларускай драматургіі** — «Яго апошняе каханне»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»

**12 сакавіка**

**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»
**Оперы і балета** — «Трубадур»
**Беларускай драматургіі** — «Што баліць?»
**Купалаўскі** — «Хам»

**13 сакавіка**

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»
**Оперы і балета** — «Церам-церамок»
**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

## КІНО

### Дзікія жарсці чорнага лебедзя

**Чорны лебедзь** (Black Swan)
ЗША, 2010, каляровы, 103 хв.
**Рэжысёр:** Дарэн Аранофскі
**Ролі выконваюць:** Наталі Портмэн, Венсан Касэль, Міла Каніс, Вайнона Райдэр, Джанет Мантгомэры
**Жанр:** Драма
**Прэміі:** 5 намінацый на «Оскар»
**Адзнака:** 5,5 (з 10)




Ніна — маладая балярына, якая прагне іграць галоўныя ролі. Але на шляху да славы ёй замінаюць нечаканыя канкурэнткі і прагныя жаданні…

«Оскараўская» карціна Дарэна Аранофскага — гэта жорсткая барацьба за кулісамі «Лебядзінага возера», і невядома, дзе сапраўдны вораг. Аранофскі выкарыстоўвае папярэдні досвед «Барца» і паказвае ўрачысты свет балета як халоднае шаленства, расквечанае музыкай Чайкоўскага.

Халодныя пустыя калідоры, люстэркі, у якіх адбіваецца гераіня, тонкая музыка — і жарсці, якія кіпяць пад паверхняю скуры. Гераіня ў выкананні Наталі Портмэн — стрымана-канвульсіўная, ледзяная, з дзікімі плоцевымі фантазіямі, што не адрозніваюцца ад рэчаіснасці.

Гучыць і гучыць музыка. Белы лебедзь стаецца чорным.

**Андрэй Расінскі**

# Дзе адпачываюць беларусы?

**Усяго ў 2010 годзе на адпачынак выязджала 415 тысяч беларусаў.**

Белстат палічыў беларусаў, якія выехалі за межы краіны з мэтай турызму, а таксама турыстаў, якія наведалі краіну ў 2010 годзе.

## Расія ратуе ўязны турбізнэс

Прыемная навіна: летась беларусаў на замежных курортах стала больш, як і арганізаваных турыстаў, якія наведалі Беларусь. Краіну наведала 120 073 турысты, што на 25 тысяч чалавек больш, чым годам раней. Часцей за ўсё адпачынак у нашай краіне выбіраюць расіяне — струмень турыстаў павялічыўся да 80 881 турыста, што дазволіла суседняй краіне па-ранейшаму ўтрымліваць лідарства. Сярод іншых краін свету наперадзе Вялікабрытанія — колькасць брытанскіх турыстаў у 2010 годзе склала 6 220 чалавек.

Варта адзначыць, што па выніках 2009 года гэты рэйтынг выглядаў такім самым чынам. Колькасць турыстаў з Албаніі павялічылася адразу ў 49 разоў! Праўда, у 2009 годзе ў Беларусь прыехаў... усяго адзін албанец.

Беглы погляд на статыстку дазваляе зрабіць суцяшальную выснову: нягледзячы на шматлікія перашкоды, беларускі ўязны турызм пачуваецца нядрэнна, хоць і за кошт расійскіх турыстаў. Хай такая, але ўсё ж стабільнасць росту.

## Дагналі крызісныя часы

Разам з тым, беспрэцэдэнтны ўзор стабільнасці і кансерватыўнасці густаў дэманструюць беларускія турысты — на працягу, прынамсі, трох гадоў топ-7 краін, дзе часцей за ўсё адпачываюць беларусы, застаецца без змен.

Колькасць турыстаў павялічылася ва ўсе пералічаныя краіны без выключэння. Прычым колькасць беларусаў ва ўсіх кірунках, апроч украінскага і чэшскага, перавысіла лічбы дакрызіснага 2008 года. А тыя часы называлі залатымі для айчынных турфірмаў.

Усяго ж у 2010 годзе з Беларусі з мэтай турызму выязджала 414 735 беларусаў, што на 98 413 больш, чым годам раней.

Цікавыя назіранні: удвая павялічылася колькасць беларусаў на курортах Кіпра: з 956 да 1 919 чалавек. З іншых перспектыўных накірункаў можна адзначыць чарнагорскі (рост з 3 062 да 4 074 турыстаў) і швейцарскі (з 667 да 1 038). Што да рэдкіх для беларусаў краінаў, то тут можна адзначыць, напрыклад, Азербайджан, дзе пабываў 41 беларус, у той час як годам раней ніхто не выявіў цікавасці да краіны. У спісе асвоеных нашымі суайчыннікамі краін таксама з'явіліся Кенія (16 чалавек), Паўднёвая Карэя (15), Катар (11).

Напрыканцы заўважым, што летась беларускія турысты даўжэй за ўсё знаходзіліся ў Балгарыі — у сярэднім 14 дзён, а самым дарагім адпачынак быў у Грэцыі — адзін дзень знаходжання на курортах краіны абыходзіўся беларусам у $91.

**Tio.by**



**Не трэба нам бераг турэцкі!**

**Топ-7 краін — асноўных пастаўшчыкоў турыстаў у Беларусь**

| | |
|---|---|
| Расія | 80 881 |
| Вялікабрытанія | 6 220 |
| Турцыя | 4 707 |
| Літва | 4 375 |
| Польшча | 4 006 |
| Італія | 2 275 |
| Германія | 2 245 |

**Топ-7 краін, дзе адпачываюць беларусы**

| | |
|---|---|
| Украіна | 132 254 |
| Турцыя | 83 266 |
| Егіпет | 50 786 |
| Балгарыя | 30 364 |
| Расія | 25 792 |
| Чэхія | 8 787 |
| Польшча | 7 407 |

# Наша «Ў» замест іх «Щ»

**У продажы з'явіліся беларускія налепкі на клавіятуру.**

Грамадская кампанія «Будзьма беларусамі!» з нагоды Сусветнага дня роднай мовы прэзентавала новы праект — «Будзьма з мовай!». На думку арганізатараў, ён дапаможа ўсім карыстальнікам камп'ютараў зручней і разнастайней ужываць штодня беларускую мову.

Каардынатар кампаніі «Будзьма беларусамі!» Алена Макоўская зазначае: «Мы падтрымліваем людзей, якія карыстаюцца беларускай мовай у штодзённым жыцці і проста не маюць беларускіх літар на клавіятуры. І для вучняў сярэдняй школы, і для пісьменнікаў, і для навукоўцаў — праблема для ўсіх адна. Выпуск такой прадукцыі — дэманстрацыя прагалу ў гэтым сегменце беларускага рынку, і, запусціўшы праект, мы спадзяёмся падштурхнуць мясцовых вытворцаў да выпраўлення бягучай сітуацыі».



**Камплекты налепак на клавіятуры распаўсюджваюцца бясплатна, але пакуль толькі ў сталіцы.**

Адзіны камплект літар уключае ўсе мовы, найбольш запатрабаваныя сучаснымі беларусамі: беларускую, англійскую, расійскую, а таксама ўкраінскую ды польскую.

Стваральнікі ўніверсальнай раскладкі для клавіятуры паклапаціліся і пра аматараў беларускай лацінкі, зрабіўшы налепкі як з кірылічнымі, так і з лацінскімі літарамі. Беларускія «І», «Ў» і апостраф «'» побач з лацінскімі «Š», «Č» і «Ŭ« — рэальны ўзор таго, як прынцып «аднаго акна» павінен быць рэалізаваны для беларускіх карыстальнікаў камп'ютараў.

Анатоль Лазар, кіраўнік студыі дызайну «Адліга», з удзелам якой ажыццяўляецца ідэя, кажа, што галоўная мэта праекта — забяспечыць карыстальнікаў зручным інструментам выкарыстання роднай мовай на камп'ютары. «Чаму, калі вам трэба літара «Ў», вы вымушаныя націскаць кнопку з надпісам «Щ» і ўвесь час трымаць у свядомасці, што пад гэтай расійскай літарай хаваецца беларуская? Давайце ж пачнём нарэшце выпускаць нашую беларускую свядомасць на паверхню, хаця б па ўзоры літараў», — пераконвае ён. Новую клавіятуру можна знайсці на стэндах раздачы паштовак Fly Cards у Мінску.

**Паводле Budzma.org**

# Беларускія танкі захапілі ўвесь свет

**Беларуская камп'ютарная гульня трапіла ў Кнігу рэкордаў Гінэса: у яе гуляюць больш за 100 тысяч чалавек адначасова.**

Камп'ютарная інтэрнэт-гульня World of Tanks («Свет танкаў») паставіла новы рэкорд па адначасовай колькасці гульцоў. Рэкорд быў зафіксаваны 23 студзеня 2011 года і склаў 91 311 чалавек. Дасягненне гульні будзе ўключана ў новы том Кнігі рэкордаў Гінэса ў канцы 2011 года.

Прадстаўнік распрацоўшчыка, кампаніі «Гейм Стрым», выказаў шкадаванне, што заяўка на ўключэнне ў спіс рэкордаў была пададзеная так рана. Напачатку лютага зафіксаваны пік складаў больш за 120 тысяч гульцоў адначасова.

**Onliner.by**




## Сапраўдная беларуская кухня

### Грэцкая каша з грыбамі

300 г морквы, 150 г сушаных грыбоў, 350 г рэпчатай цыбулі, 450 г грэчкі, 750—800 мл вады, соль і масла на смак, 200 г алею.

Сухія грыбы замачыць у гарачай вадзе на ноч.

Цыбулю і грыбы парэзаць кубікамі. Моркву нацерці на буйной тарцы. У таўстасценным рондалі ці казане разагрэць алей і падсмажыць у ім цыбулю да празрыстасці, дадаць грыбы, перамяшаць і прасмажыць усё разам, дадаць моркву і яшчэ падсмажыць, пямешваючы, пакуль морква не зарумяніцца. Пасаліць. Засыпаць прамытую грэчку, перамяшаць і заліць ўсё гарачай вадой. Як закіпіць — паменшыць агонь да сярэдняга. Калі вада з паверхні сыдзе (частка выкіпіць, а частка ўбярэцца ў крупы), акуратна перамяшаць кашу, можна дадаць на смак масла, накрыць рондаль накрыўкай і паменшыць агонь да мінімуму або паставіць рондаль з кашай у духоўку (каша павінна ўпрэць). Калі каша ўпрэе і ўся вада ўбярэцца, а крупы дойдуць да гатоўнасці, падаваць на стол.

**З кнігі Юрыя Качука «Моц смаку. Беларуская кухня»**

## Прыватныя абвесткі

**СПАЧУВАННІ**

**Глыбока спачуваем Андрэю Лапцёнку** з нагоды смерці бацькі. Сябры.

**МОВЫ**

**Бясплатна.** Шведская мова і культура для падлеткаў. Працоўная мова — беларуская. Т.: (029) 774-22-47.

**Дапамагу авалодаць англійскай мовай:** сучаснай фразеалогіяй, граматыкай. Т.: (017) 227-44-53, (029) 115-71-64.

**ПАДАРОЖЖА**

**Шукаем ахвотных далучыцца** 20 сакавіка да сяброўскага падарожжа «Пастаўскі край»: Лынтупы—Камаі—Паставы—Манькавічы—Лучай—Дунілавічы—Асінгарадок. Т.: (029) 111-73- 32.

**ПРАДАМ**

**Зборнікі вершаў** Л.Геніюш, Н.Арсенневай, А.Хадановіча прадам. Т.: (029) 332-69-56. Святлана.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

## Кемікі



1) Хлопчыку далі фішкі з лікамі 61, 91, 34, 31. Трэба іх так раскласці па дзве, каб у суме ў абодвух выпадках стала 50.

2) У наступных прыкладах знайдзі памылкі, выпраў іх, перастаўляючы адну палачку.

VI-IV=IX

VI-IV=XI

VI+IV=XII

**Сабрала Валянціна Карнялюк**




Самы багаты бізнэсовец краіны. Уладзімір Пефціеў трапіў пад прыцэл фотакамер падчас цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў конкурсу «Трыумф. Героям спорту-2010». Пефціеў узначальвае ЗАТ «Белтэхэкспарт», якое, сярод іншага, займаецца экспартам зброі. Яго капітал украінская газета «Дело» летась ацаніла ў мільярд даляраў.




Беларусаў апаноўвае цукровая ліхаманка перад чуткамі пра падаражэнне. У гомельскіх крамах нават мусілі ўвесці такія абмежаванні.




БАТЭ заваяваў Суперкубак Беларусі па футболе. 27 лютага ў мінскім футбольным манежы БАТЭ выйграў у жодзінскага «Тарпеда-БелАЗа» з лікам 3:0. Барысаўская каманда атрымала медалі і 45 мільёнаў рублёў. На фота: старшыня Федэрацыі футбола Генадзь Нявыглас медаль пераможцаў Суперкубка ўручыў не Віктару Ганчарэнку, а яго сыну Арцёму.



Славуты амерыканскі шатл «Дыскаверы» выправіўся ў 39-ы і апошні палёт у космас.

**Шаноўныя чытачы!**

Наступны нумар газеты выйдзе **16 сакавіка**. З вясною Вас!




## Анекдоты

* * *

Пенсіі не павінны абганяць цэны. Інакш пенсіянеры ўсё раскупяць: і крупы, і соль, і запалкі.

* * *

Сталенне — гэта калі замест піва купляеш сок, таму што ён рэальна смачнейшы.

* * *

У Беларусі ёсць свабода слова, але нідзе не напісана, што вы павінны быць на свабодзе пасля сказаных слоў.

* * *

Англійскі агент 007 быў закінуты ў Расію. Але яго там вельмі хутка збілі з ног і зрабілі нерухомым два мясцовыя агенты — 0,7 і 0,5.

* * *

Лянота — гэта звычка адпачываць да таго, як стомішся.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Новы Пагост, Дзісенскага павета.** Трэба ведаць, што завуць у нас «белым», а што «чорным хлебам». Хлеб, каторы пякуць з аржаной мукі — з чыстага зярна, завецца ў нас белы, а чорным называюць той хлеб, у каторым палавіна, а то і больш, да зярна дасыпана мякіны. Бульба і хлеб-мякіннік — гэта галоўны наедак нашых сялян, дык палова людзей хварэе на жывот і недакроўе.

**«НН». № 9. 1910.**

**Сёлетнюю Рок-каранацыю ў «Казе» вялі Анатоль і Аксана Вечары,** якія пераўвасобіліся гэтым разам у дактароў — ставілі дыягназы, выдавалі даведкі і бальнічныя «хворым на рок-н-рол». Найбольш «рок-мензурак» (гэтак сёлета зваліся прызы) сабраў Зміцер Вайцюшкевіч («Традыцыі і сучаснасць» і «Музыка года»). «Песняй года» сталася «Мая краіна — Беларусь» гурта «Без білета». Яго лідар Віталік «Артыст» сказаў, што цяпер каманда завецца More, і адрокся прызоў, раздаўшы выйгранае піва сваім прыхільнікам у партэры. А вялікую карону атрымаў Алесь Суша, гаспадар буціка «Каміла» і натхняльнік праектаў «Святы вечар» і «Я нарадзіўся тут». Гэта першы выпадак, калі рок-каралём зрабіўся не музыка, а прадзюсар.

**«НН». №10.2001.**

**Адказы да старонкі 15:**

1) Фішкі з нумарамі 61, 91 перавярнуць другім бокам. 19+31=50, 16+34=50.

2) VI+IV=X, VI+VI=XII, VI+IV=XI.

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7115.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 01.03.2011.
Замова № 1015.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614